ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 44 (2623)
ПЯТНІЦА
3
лістапада 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



*РУКА Ў РУКУ З МАГУТНЫМІ БРАТАМІ*
*МЫ Ў БОЙ ІДЗЁМ І Ў БЕДАХ НЕ АДНЫ:*
*БРАТЭРСТВА ШЧЫТ УЗНОСІЦЦА НАД НАМІ*
*І НЕПАРУШНАЙ ДРУЖБАЙ МЫ СІЛЬНЫ!*

*ЖЫВІ, НАРОД СВАБОДНАЕ КРАІНЫ!*
*КВІТНЕЙ ТЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ!*
*НАМ ЛЕНІНЫМ ПАКАЗАНЫ ПУЦІНЫ*
*І ЗОРАМІ АСВЕТЛЕНЫ КРАМЛЯ!*

Якуб Колас

Плакат І. Бялецкага.

## НЯХАЙ ЖЫВЕ ВЯЛІКІ КАСТРЫЧНІК, ЯКІ АДКРЫЎ НОВУЮ ЭПОХУ СУСВЕТНАЙ ГІСТОРЫІ — ЭПОХУ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА АБНАЎЛЕННЯ СВЕТУ, ПЕРАХОДУ АД КАПІТАЛІЗМУ ДА САЦЫЯЛІЗМУ!

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС.

# АД СЭРЦА

## *Свята мастацтваў народаў СССР у Беларусі*

**29** КАСТРЫЧНІКА свята мастацтваў народаў СССР ва ўсёй шматколернасці яркіх фарбаў, чароўных гукаў нацыянальнай музыкі, звонкіх песень, імклівых танцаў прыйшло ў сталіцу рэспублікі. У Мінскім Палацы спорту, дзе адбылося яго ўрачыстае адкрыццё, на сустрэчу з праслаўленымі майстрамі мастацтваў, мастацкімі калектывамі сабраліся тысячы гледачоў. Пасланцаў савецкіх рэспублік цёпла, па-брацку віталі майстры мастацтваў Беларускай ССР.

— Ваша выдатнае мастацтва, — сказаў, звяртаючыся да гасцей, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч, — нясе людзям прыгажосць. радасць і натхненне ў творчай стваральнай працы. Свята мастацтваў народаў СССР —незвычайная па сваіх маштабах, багаццю і ідэйна-мастацкаму значэнню падзея ў культурным жыцці краіны, яркае сведчанне гістарычных поспехаў савецкага народа, трыумфу ленінскай нацыянальнай палітыкі, росквіту шматнацыянальнай савецкай культуры.

Звыш дзвюх з палавінай тысяч майстроў прафесійнага мастацтва, складаючы велічную сімфонію брацтва савецкіх людзей, робіць творчую справаздачу перад працоўнымі Беларусі.

Пад гарачыя апладысменты гледачоў пасланцам савецкіх рэспублік падносіцца хлеб - соль. Дзяўчаты ў яркіх нацыянальных касцюмах уручылі артыстам букеты кветак.

Прымаючы хлеб-соль, народны артыст СССР, Герой Сацыялістычнай Працы А. В. Свешнікаў сардэчна падзякаваў за гасцінны, цёплы прыём.

— Дарагія сябры, — сказаў ён, — мы з радасцю прыехалі да вас на свята мастацтваў. Я даўно не быў у вашым горадзе. Прайшоўшы сёння па яго вуліцах, я з радасцю адзначыў, як ён вырас і папрыгажэў. Мы адчуваем пачуццё гордасці за Савецкую Радзіму, што выхавала такіх людзей, якія здолелі ўзняць з руін і пабудаваць новы цудоўны горад, дабіцца вялікіх поспехаў у развіцці народнай гаспадаркі і культуры рэспублікі.

Святочны канцэрт адкрывае зводны хор у складзе Дзяржаўнага акадэмічнага рускага хору СССР, Дзяржаўнай харавой акадэмічнай капэлы БССР, аб'яднанага хору Беларускага тэлебачання, радыё і Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Першую песню ён прысвячае таму, чый светлы геній прывёў нашы народы да Вялікага Кастрычніка, стварыў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. У зале велічна гучыць «Песня аб Леніне» А. Холмінава. Яе выконвае заслужаны артыст БССР, лаўрэат Міжнароднага конкурсу А. Сухін з аб'яднаным хорам у суправаджэнні Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР.

Зала бурна апладзіруе выдатнаму майстэрству спевакоў. Гледачы цёпла сустрэлі «Песню дружбы» І. Лучанка ў выкананні лаўрэата Міжнароднага конкурсу В. Кучынскага і зводнага хору.

На сцэне—майстар мастацкага слова Г. Пятрэнка. Ён з вялікім натхненнем чытае верш народнага паэта Беларусі П. Броўкі «Расія». Гучаць словы ўдзячнасці і брацкай любві да вялікага рускага народа, Расіі, якая згуртавала савецкія народы ў магутную шматнацыянальную сям'ю. «С тобою мы непобедимы, ты нам как мать и как сестра»,—гэтыя заключныя радкі патанаюць у громе апладысментаў.

Вялікае задавальненне прынесла гледачам выступленне Дзяржаўнага акадэмічнага рускага хору СССР пад кіраўніцтвам А. В. Свешнікава. Артысты праслаўленага калектыву з высокім майстэрствам выканалі рускую народную песню «Ах ты, стэп шырокі» ў апрацоўцы А. В. Свешнікава, беларускую народную песню «Ой, рана на Івана» і ўкраінскую народную песню «Раве і стогне Днепр шырокі».

Шмат радасных мінут падарылі мінчанам артысты Дзяржаўнага ансамбля народнага танца «Жок» Малдаўскай ССР пад кіраўніцтвам народнага артыста Малдавіі В. Курбета, якія выканалі імклівыя малдаўскія танцы «Рэзашаска», «На вінаградніку», рускую танцавальную сюіту, «Малдавяняску».

Гледачы горача апладзіравалі Дзяржаўнаму Варонежскаму рускаму народнаму хору пад кіраўніцтвам заслужанага артыста РСФСР А. Місцюкова, маскоўскаму квартэту «Акорд», трыо бандурыстак Львоўскай дзяржаўнай абласной філармоніі, Дзяржаўнаму народнаму аркестру БССР пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР, прафесара І. Жыновіча, выдатнай рускай спявачцы, народнай артыстцы РСФСР Т. Мілашкінай, лаўрэату Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў у Сафіі, салісту тэатра оперы і балета «Эстонія» М. Пальму, салістцы балета Таджыкскай дзяржаўнай філармоніі Н. Каўраковай. У канцэрце ўдзельнічалі народная артыстка БССР С. Данілюк, заслужаны артыст РСФСР П. Нечапарэнка, заслужаныя артысты БССР, салісты Беларускага акадэмічнага тэатра оперы і балета Л. Бржазоўская і Ю. Траян, вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» і іншыя артысты і мастацкія калектывы.

Гэты маляўнічы феерверк талентаў брацкіх рэспублік выліўся ў яркую дэманстрацыю дружбы савецкіх народаў, перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, якая адкрыла шырокі прастор для ўсебаковага росквіту ўсіх нацый і народнасцей нашай неабсяжнай краіны.

У заключэнне праграмы прагучала шырокая, як Савецкая Айчына, «Песня аб Радзіме» В. Лебедзева-Кумача, выкананая ўсімі ўдзельнікамі канцэрта.

На адкрыцці свята мастацтваў прысутнічалі таварышы П. М. Машэраў, Ф. А. Сурганаў, Ц. Я. Кісялёў, А. Н. Аксёнаў, У. Е. Лабанок, У. Ф. Міцкевіч, М. Н. Полазаў, І. Я. Палякоў, А. А. Смірноў, М. І. Лагір, У. І. Падрэз, І. М. Траццяк, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова.

БЕЛТА.



Народны артыст СССР А. Свешнікаў сустрэўся ў Мінску са сваімі даўнімі знаёмымі—народным артыстам СССР І. Жыновічам (злева) і заслужаным дзеячом мастацтваў БССР В. Роўдам (справа). Фота Г. ФРАЛОВА.



Салістка Варонежскага рускага народнага хору Т. Чорных.



«Жок» выконвае «Малдавяняску». Фота Ул. КРУКА.

---

**НА ЗЯМЛІ НАШАЙ — УРАЧЫСТАСЦЬ. НАРОД БЕЛАРУСІ ЎШАНОЎВАЕ ПАМЯЦЬ СВАЙГО ВЯЛІКАГА СЫНА — ПАЭТА І МЫСЛІЦЕЛЯ ЯКУБА КОЛАСА. СЁННЯ ЯМУ БЫЛО Б ДЗЕВЯНОСТА. З НАМІ ПЕСНЯ ЯГО, З НАМІ ДУМЫ ЯГО, З НАМІ СЭРЦА ЯГО.**

ПРЫГАЖОСЦЬ, нікім не заўважаная, — гэта яшчэ не прыгажосць. Яна робіцца нашай светлай радасцю толькі тады, калі мы — можа неспадзявана, а можа ў нецярплівым чаканні — раптам, узрушаныя і ўражаныя, спыняемся перад ёю...

Але і радасць, калі яна толькі ў табе, толькі для цябе аднаго, — гэта яшчэ таксама не радасць. Яна прамяніцца, нібы свята, толькі тады, калі нам ёсць з кім падзяліцца ёю. І якое шчасце мець на гэты час даверлівага і адданага субяседніка — чытача, які шчыра разумее тваё хваляванне!

Якуб Колас, зачараваны хараством прыроды і красою жыцця, верыць у свайго чытача і, нібы спяшаючыся выгаварыцца, хутчэй дзеліцца з ім хваляваннем, убачанай прыгажосцю. Яму цесна ад гэтага хвалявання, яму няёмка цешыцца радасцю аднаму, і таму паэт кожнаму свайму чытачу нанава адкрывае сваю зямлю — зірніце, маўляў, якая яна непаўторная! Адкрывае не назойліва, без прымусу. Здаецца нават, што ён проста расказвае свайму сябру, ці, можа, зусім невядомаму чалавеку, які выпадкова сустрэўся на дарозе, пра адкрытую ім прыгажосць, убачыўшы якую, цяжка і недаравальна маўчаць не толькі паэту, але і кожнаму чалавеку. Ці не таму ў час такой шчырай размовы паэтаў вершаваны радок набліжаецца да размоўна-назоўнага гучання:

> **Мароз, зіма,**
> **Снягі вакол,**
> **І спіць трава,**
> **Пад снегам дол.**

Паэзія Якуба Коласа — такая ж натуральная, такая простая і такая складаная, як і сама прырода. Зліццё чалавека і прыроды ў яго вершах вельмі ж ужо непасрэднае і непадзельнае. Бо сама творчасць — гэты найвышэйшы ўзлёт чалавечага розуму і пачуцця — відавочна, такое ж самае таінства, як і жыццядайная, нябачаная праца прыроды. Бо напоўніць вечным зместам толькі адзін радок сапраўднага верша ці нават адно-адзінае слова, гэта, мусіць, такая ж нялёгкая работа, як і ўзрадаваць зялёным хларафілам, магутнаю сілай існавання найвялікшы цуд свету — звычайны зялёны лісток.

На кожную пару года, амаль на кожную з'яву ў прыродзе ёсць у паэта свая радасць — ці то светла-журботная, ці то пранізліва-захопленая. Усход і захад сонца, першы гром і адлёт жураўлёў, зіма і вясна, ноч перад навальніцай і касьба, жніво — усё гэта тыя «вобразы мілыя роднага краю», без якіх бы вельмі збеднена адчувала сябе наша сённяшняя літаратура.

Часам нават і сам не заўважаеш, адкуль бярэцца яна, гэтая ўсхваляваная сіла Коласавай паэзіі, якая, нібы імклівая плынь, доўга бунтуе ў табе такімі простымі і такімі незвычайнымі радкамі. Скажа ён, да прыкладу:

> **Чуецца гоман мне спелае нівы,**

Ці:

> **Лес, як дзед убогі**
> **З доўгімі вусамі,**

Ці:

> **Замірае лета,**
> **Заціхаюць далі,**
> **Сірацее рэчка,**
> **Халадзеюць хвалі,—**

і ты, нібы зачараваны, доўга, як у песні, будзеш услухоўвацца ў гэтыя словы і здзіўлена пытацца ў самога сябе, адкуль, ну адкуль жа спадае на цябе гэтая замілаванасць, урачыстасць, лёгкая журба.

На першы, абыякавы погляд апошнія радкі, узятыя з верша «Адлёт жураўлёў», могуць здацца звычайным пералікам уражанняў. Але ўгледзіш-

Міхась ЛЫНЬКОЎ

ДЗЕВЯНОСТА ГОД ТАМУ НАЗАД у беднай хаце селяніна-лесніка нарадзіўся хлопчык, будучы вялікі паэт беларускага народа. Сын простых людзей, плябей, так сказаць, па паходжанні, ён на ўсё сваё жыццё застаецца простым чалавекам з сялянскім складам душы. Гэта сказваецца ў яго сціплых паводзінах, у яго абыходжанні з людзьмі, урэшце, у яго ўласным побыце, у хатнім распарадку, нават у такіх дробязях, як манера апранацца, падбор любімых сялянскіх страў, наяўнасць пэўных звычак і навыкаў, набытых яшчэ пад саламянай страхой бацькоўскай хаты.

Ужо будучы славутым пісьменнікам, адным з кіраўнікоў Акадэміі навук, ён ніколі не расставаўся з штодзённай сялянскай заклапочанасцю аб лёсе ўраджаю. У хаце Якуба Коласа не было нічога лішняга, непатрэбнага з мэблі, абсталявання, што гаварыла б пра раскошу ці пра пагоню за модай. Адзіным упрыгожаннем у хаце [калі лічыць гэта ўпрыгожаннем] быў даволі вялікі барометр. Першы ранішні позірк Якуба Коласа быў на гэты барометр: а што ён там прадказвае на сённяшні дзень, ці абяцае ён што карыснае для ўраджаю.

Колас вельмі любіў прыроду, усю прыгажосць кожнай пары года і ўмеў перадаць гэту прыгажосць, усе яе адценні ў жывым мастацкім слове.

З усяго таго сялянскага, простага, што засталося ў Коласа, папулярнага пісьменніка і вучонага, можна назваць яго выключную даступнасць для любога чалавека, прадстаўніка любой прафесіі, любой адукацыі. Трэба адзначыць і пэўную лёгкасць, з якой ён сыходзіўся з людзьмі, і яго заўсёднае жаданне яднацца з імі, быць бліжэй да іх. Я не гавару ўжо аб яго чуласці да людскога гора, бяды, аб яго вернасці сваім сябрам, таварышам, такім, як, скажам, яго нязменны друг і паплечнік, народны паэт Янка Купала.

Арганічная сувязь з жыццём народа, дасканальнае веданне гэтага жыцця вызначылі характар і кірунак усёй творчасці паэта, які не ведаў іншых інтарэсаў, як кроўныя інтарэсы і запатрабаванні народа. Пад словам народ мы маем на ўвазе не абстрактнае разуменне, не абагуленую і злучаную адзінай нацыянальнай прыналежнасцю сукупнасць людзей, а людзей працы. Іменна працоўныя людзі ў тыя далёкія дарэвалюцыйныя часы і знаходзіліся пад двайным прыгнётам: сацыяльным і нацыянальным. Выказнікам іх інтарэсаў, іх запаветных спадзяванняў і рэвалюцыйных імкненняў і быў Якуб Колас, як і яго друг і паплечнік Янка Купала.

Якія ж сілы нарадзілі Якуба Коласа як пісьменніка, як народнага паэта! Асноўнай сілай была рэвалюцыя 1905—1907 гг. Яна абудзіла мільённыя масы заняволенага народа, заклікала яго да актыўнага творчага жыцця, да рашучага змагання з царскім самаўладствам, якое трымалася на штыках і шыбеніцах. Рэвалюцыя, якая ўскалыхнула да самых глыбінь бязмежнае народнае мора, узнесла на грэбні хваль усё лепшае, жыццядзейнае, стойкае, таленавітае, усе тыя магутныя творчыя сілы, якія доўгія гады, на працягу цэлых стагоддзяў знаходзіліся пад спудам і бясследна гінулі, не маючы ні малейшых магчымасцей для свайго праяўлення і развіцця.

Першыя паэтычныя выступленні Якуба Коласа і Янкі Купалы сустрэлі прызнанне і падтрымку з боку такога выдатнага чалавека і пісьменніка, як Аляксей Максімавіч Горкі. Яму падабалася глыбокая шчырасць і сапраўдная народнасць іх твораў.

Рашаючы ўплыў на творчасць Якуба Коласа, асабліва паслякастрычніцкую, аказалі ідэі марксізму-ленінізму, грандыёзная практыка новага жыццебудаўніцтва ў краіне, цудоўныя перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі. Новая, савецкая ява, велізарныя сацыялістычныя пераўтварэнні ў краіне, незлічоныя здабыткі ў народнай гаспадарцы, у нацыянальнай культуры, у росце дабрабыту народа,—усё гэта было падобна на казку,ператвораную ў сапраўдную рэчаіснасць. Якуб Колас, які з самых ранніх гадоў сваёй дзейнасці ніколі не быў староннім і абыякавым да ўсяго сузіральнікам жыцця і яго складаных падзей, адразу пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі актыўна ўключаецца ў працэсы новага, савецкага будаўніцтва. Ён піша шматлікія творы, прымае чынны ўдзел у заснаванні навуковых устаноў—ад Інбелкульта да Акадэміі навук, працуе як грамадскі і дзяржаўны дзеяч.

Ён пакінуў нам найбагацейшую літаратурную спадчыну. У яго творах бачым мы дзівоснае ўвасабленне духу народа, яго нацыянальнага характару, усіх яго выдатных асаблівасцей: высокага гераізму, працавітасці, адданасці бессмяротным запаветам Леніна, сапраўднага гуманізму, гасціннасці, велікадушнасці, сардэчнай прыязні да брацкіх народаў і пачуцця пралетарскага інтэрнацыянальнага адзінства з працоўным людам усяго свету.

...Якуб Колас любіў народ як верны яго сын. Народ адказваў і адказвае яму такой жа гарачай любоўю і павагай.



Янка СІПАКОЎ

# СВЯТА НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

ся, услухаешся ў іх, і зразумеш, у якім адзіна патрэбным парадку стаяць яны. Здавалася б, звычайныя словы— «замірае», «заціхаюць», «сірацее», «халадзеюць»! Сам адчуваеш, як многа значыць і як многа дае вось гэтае звычайнае, ціхае: «Сірацее рэчка».

Усё тут, сапраўды, звычайнае. Усё знаёмае. Усё простае. Але да такой натуральнай прастаты—заўсёды вельмі ж доўгая дарога роздумаў, пошукаў, хвалявання. За гэтай прастатою — упартая прага заўважыць па-новаму, па-свойму тое, што ўжо даўно вядома, каля чаго мы абавязкова праходзім ледзь не кожны дзень. І таму такая, калі хочаце, нязмушаная прастата — сапраўдная паэзія. А сапраўдную паэзію вельмі цяжка растлумачыць.

Аванес Туманян, вялікі армянскі паэт, сцвярджаючы, што «галоўная асаблівасць паэтычнага таленту — гэта свяшчэннае, трапяткое ўзрушэнне, унутранае хваляванне, якое імгненна перадаецца чытачу», тут жа спахапляецца і, сумеўшыся, прызнаецца:

— Не, гэта немагчыма растлумачыць...

Таксама немагчыма растлумачыць, адкуль і калі пачынае струменіць чысты выток Коласавай паэзіі, нельга растлумачыць, чаму нас так хвалююць пасля яго дотыку ўсё тыя ж простыя і звычайныя словы, з'явы. Цікава, дзе ж ён, сакрэт коласаўскай паэзіі?

Успамінаецца недзе прачытаная ці пачутая прытча пра Майстра, які рабіў цудоўныя, выключныя па якасці люстэркі. У яго быў чаляднік, які за доўгі час працы з Майстрам дасканала, да самых дробязяў вывучыў увесь працэс стварэння люстэрка. І вось чаляднік пакінуў Майстра і рашыў наладзіць свой промысел — ён жа ведаў усё! Чаляднік рабіў, як і Майстар, дакладна паўтараў яго, выкладаў увесь свой назапашаны вопыт, а люстэркі не атрымліваліся. Адпакутаваўшы, няўдачнік вярнуўся.

— Растлумач, — папрасіў ён Майстра, пакляўшыся папярэдне, што больш ніколі не пакіне яго,—чаму ў мяне не атрымліваліся люстэркі? Я ж усё рабіў, як ты. У чым твой сакрэт?

— А ў мяне ніякага сакрэту няма, — адказаў Майстар. — Проста, калі люстэрка ўжо гатова, я вось так хукну на яго, і ўсё...

Якуб Колас, як той вопытны Майстар, заўсёды ведаў, дзе і калі трэба дыхнуць на радок, каб адбылося нечаканае дзіва — каб словы, якія штодзень на нашых вуснах, раптам заззялі і пачалі випраменьваць сапраўдную паэзію.

Па вельмі ж ужо своеасаблівай і непасрэдна ўскалошанай паэзіі Якуба Коласа, гэтак жа як і па земляной, густой прозе Кузьмы Чорнага, як і па даверліва-народнай лірыцы Янкі Купалы, лягчэй падбірацца да распазнання і разумення душы беларуса, можна лепей меркаваць пра тыя шчаслівыя набыткі, якія звычайна даюць магчымасць гаварыць пра нацыянальныя асаблівасці паэта. У Коласа нават разуменне прыроды не адвольнае, не сусветнае, якое можа, скажам, адчуваць нейкі ўмоўны чалавек, умоўна прыняты за нейкую адзінку пачуцця, а канкрэтнае, адкуль шырока вырастае непасрэдная лучнасць з усёю прыродаю, лучнасць менавіта беларуса, які добра ведае, да прыкладу, што значыць для яго гаспадаркі першы гром ці той жа журботны адлёт жураўлёў. Відаць, таму ў многа якіх вершах паэта зацята змагаюцца зіма і вясна, сіверны холад і шчодрае сонца; відаць, недзе там нарадзілася і такая, як плач, як просьба, шчымлівая ўпэўненасць:

**Вясна, вясна**
**Жаданая!**
**Ты прыйдзеш зноў,**
**Ты вернешся!**

Па глыбока заземленых творах Я. Коласа можна плённа вывучаць матэрыяльную культуру беларусаў. Ён вельмі дакладна ведаў усё, пра што ні браўся пісаць. Ён, здаецца, нічога не абмінуў: і чым беларус араў, скародзіў сваю палоску; і якія стравы ўпрыгожвалі небагаты сялянскі стол у святочныя дні, і што ставілася на кожны дзень; і якая світка грэла халоднай зімой лепей. Якія птушкі вясялілі беларускія лясы, якія краскі радавалі беларускія лугі, якія крыніцы давалі сілу яго зямлі; з чаго беларус піў квас, у што абуваўся, як праводзіў ён свой вольны час, якога ў яго заўсёды было да крыўднага мала, — пра ўсё гэта, прачытаўшы ўважліва Коласа, можа даведацца нават і той, хто ніколі не быў у Беларусі. Памятаеце, як падрабязна выпісаны лясны дол, дзе «чаборык, мох, зязюльчын лён і верасок агніста-дымны?». А хіба можна застацца абыякавым да той мясціны з «Новай зямлі», дзе дзядзька выбірае касу? Якое веданне і дзядзькавага характару і характару той гаваркой касы, якую, нібы жонку, выбірае чалавек, здаецца, на ўсё жыццё.

Перачытваючы Якуба Коласа, неяк міжволі прыходзіш да думкі, што ў яго доўга, вельмі доўга спела, а потым ніколі не пакідала паэта вялікая патрэба жыцця — «аддаць падзяку зямлі і небу». За што? А проста за тое, што чалавек жыве, можа і пакутуе, можа і галадае, можа і халадае, але ж мае радасць цешыцца ўсходам сонца, слухаць песні птушак, углядацца ў глыбокі блакіт таямнічага неба. І пасля ўжо гэтая думка выкрышталізуецца ў своеасаблівую формулу:

**О, каб я меў такія рукі,**
**Зямля, абняў бы я цябе...**

Паэзія Якуба Коласа была заўсёды па-харошаму грамадзянскай, заўсёды натхнялася шчыраю заклапочанасцю пра чалавека, жыццё, Радзіму. І таму, калі паэт у сваёй дакастрычніцкай лірыцы жыве чаканнем вясны, якая ўсё абудзіць, — мы разумеем, што ён чакае рэвалюцыі; калі ён гаворыць пра цёмную ночку, якая схавала ўсё жывое і вельмі ж ужо гняце, — мы ведаем, што паэт мае на ўвазе той холад, цемень і студ перадрэвалюцыйных гадоў, калі царызм ганебна пахаваў у чорным змроку рэакцыі цэлую краіну.

А ў савецкі час ён радуецца, што «на прастор, на шырокі разлог» выходзіць грамадою яго народ: шчыраю песняю вітае «племя маладое» —камсамольцаў, якія смела ідуць «на штурмы скал і дзікіх гор»; прысвячае натхнёныя радкі Чырвонай Арміі. І, вядома ж, спявае свае ўзнёслыя песні пра Леніна — пра таго, хто дапамог здзейсніць жаданні яго народа:

**Між нас жыве Ленін, як сонца,**
**як зоры,**
**Як мудрасць вялікай зямлі,**
**І сее праменні, агні непакоры,**
**Каб людзі шчасліва жылі.**

Вось такі ён, Якуб Колас, — і наш класік, і наш сучаснік. Рамантычна-ўпэўнены, незгаворлівы ў цяжкі дарэвалюцыйны час, калі ён не сумняваўся, што прыйдзе вясна, прыйдзе светлая будучыня, якой гэтак чакаў беларус.

Цёплы, замілаваны, узнёслы, калі ён піша пра новую яву, здзейсненую Вялікім Кастрычнікам.

Шчымліва-задумлівы, засмучоны доўгім расстаннем з радзімаю ў часе Айчыннай вайны, калі паэту вельмі ж марылася пра родныя Загібелькі, Вусці ды Балачанкі...

Неяк падумалася: колькі ж іх, розных пакаленняў, якія зараз шчыра ўзялі на плечы клопат дзяржаўных спраў і працуюць сёння інжынерамі, настаўнікамі, дактарамі, партыйнымі работнікамі, выхаваліся на добрай і чалавечай паэзіі Якуба Коласа. І кожнаму, хто сёння і далёкі ад паэзіі, відаць, варта толькі нагадаць пра песняра, як само сабою, з нейкіх даўніх і зварушлівых успамінаў усплываюць радкі, якія напомняць пра школу: «Мой родны кут, як ты мне мілы!» або «Уцякай, мароз-дзядуля! Чуеш ты, стары, ці не? На пагорках — булі-гулі! — песні чуюцца вясне», або: «Між алешын, кустоў, дзе пяе салавей, і шуміць і грыміць срэбразвонны ручэй».

Часам, занятыя сваімі будзённымі клопатамі, мы неяк не вельмі задумваемся, як многа значыць для нас, для нашай літаратуры Якуб Колас — гэты сапраўды народны паэт са шчыраю, светлаю душою сейбіта. Паэт, у якога, як у таго добразычлівага і запаслівага беларускага хлебасея, заўсёды прыхавана радасць на кожны дзень.

І свята—таксама на кожны дзень.




Пятрусь БРОЎКА

# У ДЗЯДЗЬКІ ЯКУБА Ў ТАШКЕНЦЕ

ГЭТА БЫЛО ў грозны тысяча дзевяцьсот сорак другі год. Наша франтавая рэдакцыя «За Савецкую Беларусь» была на Заходнім фронце, але размяшчалася ў прыфрантавой Маскве ў казармах на 5 Данскім завулку. Ворага адагналі ад сталіцы, але Масква ўсё ж была на франтавым становішчы. Рэдакцыя наша змяшчалася ў Маскве яшчэ і таму, што там працавалі ў той час і ЦК Кампартыі Беларусі і ўрад Савецкай Беларусі і Цэнтральны штаб партызанскага руху, які ўзначальваў Панцеляймон Кандратавіч Панамарэнка.

І хоць было цяжка, бо на франтах разгортвалася нечуваная па жорсткасці бітва, нас радавала тое, што партызанская барацьба ў Беларусі прыняла ўсенародны размах. Усё больш з'яўлялася ў Маскве герояў-падпольшчыкаў і адважных партызанаў з-за лініі фронту, якія расказвалі пра выключныя подзвігі нашых слаўных людзей. Мы гэтым ганарыліся. Але ў тыя дні цяжкі ўдар абрушыўся на нас: раптоўная смерць нашага дарагога Янкі Купалы. Мы пахавалі яго, агорнутыя нечуваным болем, і вельмі шкадавалі, што на апошніх провадах не было і нашага дарагога настаўніка, самага бліжэйшага сябра Купалы Якуба Коласа. Ён жыў вельмі далёка, ажно ў Ташкенце, адкуль у Маскву, у ваенны час дабрацца было нялёгка.

Цяпер я ўжо добра не памятаю, у каго ўзнікла такая думка, — ведаю толькі добра, што не без ініцыятывы таварыша Панамарэнкі,—паслаць мяне ў Ташкент да Якуба Коласа.

Мяне не трэба было ўгаворваць. На другі ж дзень, забяспечаны камандзіроўкай і належным салдацкім пайком, качаўся я ў вагоне па дарозе на Ташкент і праз восем дзён быў ужо на месцы. У Ташкенце на вакзале сустрэў мяне Данік — сын Коласа — Даніла Канстанцінавіч, і неўзабаве я апынуўся ў абдымках дзядзькі Якуба, любага і дарагога ўсім нам. Памятаю, што і ў яго і ў мяне заблішчэлі на вачах слёзы.

Праз момант дарагая Мар'я Дзмітраўна, жонка народнага паэта, найбліжэйшая сяброўка дзядзькі Якуба, накрыла стол. Гэта было нялёгка зрабіць у той цяжкі час, але, відаць, былі пастаўлены некаторыя запасы, захаваныя на самы патрэбны выпадак, ды і я дастаў з торбы тое-сёе.

Некалькі гадзін расказваў я Канстанціну Міхайлавічу і пра астатнія дні Купалы і пра тое, што адбывалася тады на прыгнечанай зямлі Беларусі. Колас цікавіўся ўсім і ўсімі. Не было ніводнага з нашых франтавых хлапцоў, пра каго б ён не ўспомніў. Выгляд яго быў схуднелы і даволі засмучаны, расказваў ён і пра свае вандраванні, часта ўспамінаў Юрку, свайго сярэдняга сына, ад якога не было вестак з фронту. З болем гаварыў ён пра пакуты роднага народа. Але ў паэта не было роспачы:

— Зломіць, зломіць сабе карак гэты бандыт Гітлер, Петрусёк. Захлынецца ён у сваёй жа крыві, — пераканана сцвярджаў ён. — І мы з табой паходзім яшчэ і па Мінску і па Балачанскіх сцежках па грыбкі...

Гаварыў Колас і аб ташкенцкім жыцці. Між іншым дзякаваў узбекам за нядрэнны, па таму часу, прыём.

Відаць, яму хацелася пазнаёміць мяне і з горадам, бо ён, калі я адмовіўся ад адпачынку, прапанаваў мне пайсці прагуляцца, за што я быў удзячны.

А Мар'я Дзмітраўна, я тады і не даведаўся чаму, настойліва прапанавала зняць мне вайсковае абмундзіраванне. Дала мне цывільнае, дзядзькі Якуба.

— Вам так будзе спакойней, — казала яна. А яшчэ жартаўліва: — А то рука забаліць, каб вітацца з вайскоўцамі.

Я паслухмяна пераапрануўся, і праз некаторы час мы крочылі ўжо з дзядзькам Якубам па вуліцах Ташкента.

Я заўважыў, што Канстанцін Міхайлавіч добра ведаў горад і, мне здавалася, палюбіў яго. Ён паказваў цікавыя кварталы і асобныя будынкі, нават пахваляўся арыкамі. Яны, па-першае, дарылі прахалоду, а, па-другое, відаць, нагадвалі яму маленькія рачулкі і ручаінкі на радзіме. Адхінуўшыся ад паказу Ташкента, ён усё распытваў і распытваў пра Беларусь.

Звадзіў мяне дзядзька Якуб і ў Саюз пісьменнікаў, дзе пазнаёміў са сваімі новымі ўзбекскімі сябрамі. Яго там любоўна звалі аксакалам. А аксакал Колас ужо напісаў нямала і вершаў, прысвечаных гасціннай узбекскай зямлі і слаўнаму працавітаму народу.

Але больш за ўсё пісаў Колас у той час аб любай яго сэрцу Беларусі. І чытаў мне напамяць некаторыя строфы і з «Голаса зямлі» і з «Суду ў лесе».

Гадзін толькі цераз пяць мы вярнуліся да Мар'і Дзмітраўны. Яна нават крышку і ўпікнула нас за спазненне. Але не паспела гэта яшчэ крануць, як узрушыла і ўсхвалявала мяне другое: на канапе, на распасцёртым ручніку, ляжала чысценькае вымытае і выпрасаванае маё вайсковае абмундзіраванне. Гэта яна зрабіла сама, пакуль мы гулялі. Другі раз у новым прыпірышчы дзядзькі Якуба ў мяне набеглі слёзы. Я цалаваў яе рукі, як роднае маці.

Цудоўнай, выключна цудоўнай душы была жыццёвая сяброўка Якуба Коласа, Мар'я Дзмітраўна.

Мы ўжо ў яе прысутнасці пачалі ўспамінаць пра ўсіх, хто застаўся і пакутуе на роднай зямлі, а ў Мар'і Дзмітраўны ўсё часцей набягалі на вочы слёзы. Гэта яна ўспамінала свайго Юрку.

Позна мы леглі ў тую ноч. І, відаць, спалі, усхваляваныя сустрэчай, нямоцна, бо вельмі рана ўзняліся. Хацелася яшчэ пагаварыць, а да таго ж мне трэба было спяшацца на цягнік, які адыходзіў раніцой на Алма-Ату.

Я ехаў у казахскую сталіцу ў чаканні сустрэчы з маім маленькім Юрам і з Лёляю, а ўсю дарогу не выходзілі з мае галавы і дзядзька Якуб і Мар'я Дзмітраўна, і Данік, і Міхасёк, уся іхняя такая любая і родная сямейка.







На здымках дакументальнага фільма. 1952 год.

Хамід ГУЛЯМ

# МАЕ СУСТРЭЧЫ

З ХВАЛЯВАННЕМ успамінаю першыя месяцы Вялікай Айчыннай вайны. З заходніх раёнаў краіны ў Ташкент штодзень эшалон за эшалонам прыязджалі эвакуіраваныя: старыя, жанчыны, дзеці. Усе дамы ташкентцаў былі ператвораны ў інтэрнаты.

Сярод прыбыўшых было многа вучоных, дзеячоў мастацтваў, пісьменнікаў. У тыя дні было шумна ў будынку Саюза пісьменнікаў Узбекістана на Першамайскай вуліцы. Тут сустракаліся паэты і пісьменнікі розных нацыянальнасцей, абмяркоўваліся новыя творы, складаліся антываенныя зборнікі.

Я тады быў яшчэ маладым паэтам, толькі што прынятым у Саюз пісьменнікаў, і працаваў рэдактарам і дыктарам на радыё. Мне давялося сустракацца не раз з такімі карыфеямі савецкай літаратуры, як Аляксей Талстой і Мікалай Пагодзін, Карней Чукоўскі і Уладзімір Лугаўской. Вялікі след у маёй душы пакінула сустрэча з Якубам Коласам, з якім я падружыўся, і наша дружба потым працягвалася да канца яго жыцця.

Я памятаю такі выпадак. Нас, узбекскіх паэтаў, запрасіў Хамід Алімджан, які тады працаваў старшынёй Саюза пісьменнікаў, і прапанаваў перакласці на ўзбекскую мову зборнік вершаў Якуба Коласа. Гафур Гулям, Шэйх-Задэ, Зульфія, Уйгун, Цімур Фатах, Тураб Тула і я на працягу некалькіх дзён з вялікім натхненнем перакладалі творы Якуба Коласа, яны былі выдадзены ў 1942 годзе пад назвай «Вершы».

Прайшло яшчэ 12 гадоў. У студзені 1954 года я прыехаў у Мінск. Тады я пісаў кнігу «Вялікая сям'я», якую прысвяціў 300-годдзю ўз'яднання Украіны з Расіяй. Стаяла 30-градусная лютая зіма. Я не паспеў зайсці ў гасцініцу, як зазваніў тэлефон у адміністратара, нехта пытаўся пра мяне. Гэта быў Якуб Колас. Мяне тут жа павезлі да яго дамоў, у той самы дом на тэрыторыі Акадэміі навук Беларускай ССР, у якім цяпер Літаратурны музей Якуба Коласа. Тады мяне сустрэў сам Колас і яго творчы сакратар, цяпер вядомы беларускі паэт Максім Лужанін. На другім паверсе гэтага дома, у кабінеце Коласа няспешна цякла наша сяброўская гутарка. Колас чытаў мне свае вершы «Узбекістану», «Салар» на беларускай мове. Ён успамінаў Ташкент, сваіх узбекскіх сяброў і глыбока шкадаваў аб заўчаснай смерці Хаміда Алімджана...

У той год мне давялося яшчэ раз пабываць у Беларусі, цяпер як госцю Трэцяга з'езда пісьменнікаў Беларускай ССР. У дні з'езда я ў апошні раз сустрэўся з Коласам. Канстанцін Міхайлавіч усіх гасцей з братніх рэспублік запрасіў у госці да сябе дамоў. На гэтай сустрэчы з гордасцю гаварыў аб росквіце шматнацыянальнай савецкай літаратуры, аб неабходнасці берагчы, як зрэнку вока, дружбу паміж братнімі народамі, умацоўваць літаратурныя сувязі.

І сёння 90-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа адзначаюць усе народы Краіны Саветаў, бо творчасць яго дарагая ўсім, хто любіць свабоду і мір на зямлі, хто даражыць сваёй сацыялістычнай айчынай.



На трыбуне 3-га з'езда пісьменнікаў Беларусі. 1954 год.



У прэзідыуме XXI з'езда КПБ. 1954 год.



З Кандратам Крапівой і Міхасём Лыньковым на святкаванні свайго 65-годдзя.



У сваім рабочым кабінеце. 1947 год.



З В. Ф. Купрэвічам, П. У. Броўкам, А. К. Ільінскім і І. П. Шамякіным у кулуарах XXI з'езда КПБ.



У сваім садзе.

# ДРУКУЕЦЦА ЎПЕРШЫНЮ

**ПРАЦУЮЧЫ** аператарам на кінахроніцы, а затым фотакарэспандэнтам «Звязды», я неаднаразова меў магчымасць сустракацца з Якубам Коласам. Выдатны народны паэт Беларусі быў надзвычай сціплы чалавек і пазіраваць перад аб'ектывам не любіў. Для яго была пакутай уся наша мітусня.

Заўсёды засяроджаны, паглыблены ў свае думкі, Канстанцін Міхайлавіч моршчыўся ў часе здымак, і ў нас узнікала адчуванне, што мы замінаем яму.

Калі рэжысёр Юрый Тарыч і Уладзімір Акуліч здымалі дакументальны фільм пра Якуба Коласа, мне даводзілася фатаграфаваць Канстанціна Міхайлавіча ў вёсцы Балачанка Пухавіцкага раёна. Сюды паэт прыязджаў да свайго сябра Канстанціна Сцяпанавіча Дзятко, які ў гэтых мясцінах працаваў доўгія гады — спачатку на ферме, потым старшынёй калгаса. Не мінаў ён і лесніка Івана Ануфрыевіча Кавалеўскага. Паэт любіў хадзіць з імі па раздольных калгасных нівах, садах у квецені, па пасецы.

Здымаючы Канстанціна Міхайлавіча на III з'ездзе пісьменнікаў Беларусі ў час гутаркі з А. Пракоф'евым, С. Міхалковым, К. Сіманавым, П. Броўкам, І. Шамякіным, я пераканаўся, з якой глыбокай павагай адносіліся яны да Коласа.

Апошні раз я здымаў Я. Коласа на сесіі Вярхоўнага Савета БССР у ліпені 1956 года. Ён разам з П. Броўкам і М. Танкам вывучаў нейкі дакумент. Заўважыўшы, што я нацэльваюся аб'ектывам на іх групу, Я. Колас кінуў на мяне дакорлівы позірк. Я ўсё ж паспеў зрабіць два здымкі, не здагадваючыся, што яны — апошнія...

Усе прапанаваныя рэдакцыі здымкі публікуюцца ўпершыню.

Ул. КІТАС.



У вёсцы. 1952 год.

## Казімір КАМЕЙША

●

Паэты, як рэкі, заўсёды.
Тут сорамна быць ручайком.
Ёсць шчасце
да вуснаў народа
Каціцца вялікай ракой.
Той талент быў Нёманам
чыстым.
Ён быў паўнаводным яшчэ.
Ён плыў ля дубоў плячыстых,
Ён быў салаўёў званчэй.
Спявалі вясёлыя вольхі
То лісцікам, то карой.
Вірыў ён,
адводзіў паводдаль
Ад песні лязо тапароў.
Два дзядзькі—і Нёман, і Колас,
А голас сялянскі адзін:
«Плынь вышнем яшчэ раз
падковай,
На шчасце яе аддадзім...
...За час неўраджайны
трывожна.
На сонцы папарымся, што ж...
— За дожджык,
мой Нёман,
за дожджык!
— За дожджык, Якубе,
за дождж!»
І пойдуць у свет адгалоскі
І вырастуць у галасы.
Адскочаць пасля адкалоскі
А можа і... каласы.
...Рака яго не змялела,
Зусім не змарнелі дубы.
Нясмела у зараснік спелы
Прыходзяць з дажджамі
грыбы.
Дзе плынь, як луска,
ільсніцца,
Пачуецца хлапчуку:
— Адкуль ты, рака?
— З крыніцы!
— Куды ты?
— У аечнасць цяку...

## Васіль БЫКАЎ
# ЗАЙЗДРОСНЫ ЛЁС

ДОЎГІ ЧАС у раннім дзяцінстве я быў зачараваны ягонай «Дрыгвой», пасля прыйшло захапленне «Новай зямлёй» і «Сымонам-музыкам»; здаваліся амаль цудам створаныя ім гэткія жывыя і яркія малюнкі жыцця, думалася: на гэта здольны толькі чалавек незвычайны, волат думкі і чараўнік слова. Калі ж праз колькі гадоў прыйшло разуменне законаў літаратурнай творчасці, грамадскіх абставін і эстэтычных вытокаў таленту, тады шчаслiва і радасна адкрылася, што між усяго і, можа, найперш за ўсё, у ім жыў таленавіты вясковы настаўнік, адзін з тых бескарыслівых падзвіжнікаў у нашым народзе, якія на зары яго нацыянальнага абуджэння спасціглі сэнс сусветнай культуры і да вострага болю ў сэрцы адчулі свой гістарычны абавязак перад беднай, пагарджанай, цёмнай старонкай.

І толькі цяпер, з нашага сёння, з усёй выразнасцю бачыцца, што ён быў не тое і не другое паасобку, а быў разам і чараўніком слова, і вясковым настаўнікам — народным інтэлігентам, які праз усё жыццё горда пранёс свой шматпакутны абавязак перад народам, і што ўсё гэта ў адзіным сваім спалучэнні выкрышталізавалася ў ім у нацыянальнага генія, аднаго з першых, чыё імя цяпер ужо назаўжды ўвойдзе ў гісторыю культуры народа і будзе жыць у ім, пакуль будзе існаваць адораны ягоным словам народ.

Слаўны, нялёгкі і велічны лёс яго будзе навек асвятляць нашу сціплую працу ўсё на той жа аранай і пеставанай ім і такімі, як ён, беларускай ніве.



Максім ЛУЖАНІН

# НЕ ШКАДУЙЦЕ ДОБРАГА СЛОВА

*Неўзабаве пасля апублікавання аповесці «Колас расказвае пра сябе» прыйшоў ліст з Масквы. Адгукнуўся мой сябар, рускі пісьменнік: «Твая кніга — не дапісана: не палохайся, гэта яе перавага. Адно ты яшчэ ўспомніш і дапішаш сам, тое пра Коласа, аб чым хацелася б ведаць больш, у цябе выпатрабуюць прымусяць дадаць чытачы, яны ж раскрыюць і невядомае табе самому. Такога парадку лісты можна будзе проста далучаць да новых выданняў».*

*З лёгкай сябравай рукі — ён першы падараваў мне невядомыя выказванні Я. Коласа — кніга дапісваецца і мною і чытачамі. Новае выданне (1970) давялося значна дапоўніць, а вось і яшчэ некалькі старонак.*

Размарынаў? Няўжо ў яго такое апераэтачнае прозвішча?

Колас нічога не адказвае: так ён толькі што назваў аднаго з сваіх наведвальнікаў. Але ў вачах — ледзь прыкметная іскрынка, значыць, у думках ён пасмейваецца і зараз нешта раскажа.

Шумных і дакучлівых людзей Канстанцін Міхайлавіч не любіў. Можа, гэта — замоцнае слова, бо хоць яму і было цяжка з надаядамі, як ён ахрысціў асоб такога заводу, але ж не адмяжоўваўся ад іх. Ён ніякавеў і губляўся перад бесцырымоннасцю некаторых просьбітаў, аднак выслухваў іх. Ды не толькі выслухваў і дапамагаў праз прыроджаную далікатнасць, а вышукваў у кожным зернетка сапраўднага, чалавечага. Праўда, наглядальныя вочы не абміналі нічога ў суразмоўніку: памяць адкладала ў запас смешныя рысы, дробязныя звычкі, драпежныя ўхваткі.

Адзін усяго раз за наша знаёмства Колас так зірнуў на занадта настырнага карэспандэнта, што той паспяшаўся зачыніць дзверы гасцінічнага нумара,— знік, як быццам і не з'яўляўся.

Канстанцін Міхайлавіч нездаволена пачмыхаў, а праз паўгадзіны, калі мінулася змора і адышлася ад вачэй сумятня цяжкога пасяджэння, адкуль ён вярнуўся, пачаў каяцца.

— Паказаў, называецца, характар, стары корч... — Зневажальныя звароты да ўласнай асобы заўсёды выкрываюць ягонае хваляванне. — Выгнаў чалавека, а за што? Яго ж справа ў карак штурхае...

Памаўчаў і ўзяўся за мяне:

— Дый ты — добрая цаца. Няма, каб спыніць, асцерагчы...

— Тады б і я апынуўся за дзвярыма...

Колас лёгка адгукаецца на жарт:

— Але ж выпарыўся ён хутка. Быццам нячысты дух. Няўжо я страшны такі, га?

Пагаварыўшы пра заўтрашнія турботы, здалёк пачынае падступацца да таго, што не пакідае яго ў спакоі.

— А можа б, пазваніць яму? Не магу ж я пісаць тут, у гасцініцы. Не атрымаецца. Прыеду дадому, тады раздумаюся, — будзе ім артыкул. Як ты мяркуеш?

Запытанне гучыць так: давай пазвонім, растлумачым, скінем з сэрца цяжар.

Бяруся за тэлефонную кнігу:

— Дык як яму казаць, дзядзька Якуб?

— Відаць, мне давядзецца...

Пакуль ён падыходзіць, тэлефон абзываецца сам. Рэдактар перапрашае за свайго супрацоўніка — аператыўнасць прымушае! — просіць не губляць з імі дружбы на далейшае: што здолееце і калі здолееце — усё роўна, толькі прысылайце.

Коласа гэта кранула, расчуленасць так і чутна за кароткімі сказамі:

— Не пакрыўдуйце і вы... І хлопцу свайму скажыце, няхай... Ну, адным словам, хай даруе. Я з ім хацеў бы пабачыцца. Калі? А хоць і заўтра.

Паклаў трубку, таймуе ўзбуджанасць: ходзіць ад акна ў парог і назад.

— Бачыш, — голас у яго цяплее, — колькі нас, беларускіх капшукоў, вучыць трэба. Хто вінаваты, а хто першы прабачэння просіць...

Ён сядае за стол і, уздыхаючы, бярэцца за асадку.

— Нічога не зробіш, нічога не зробіш...

Крыху падумаўшы, глядзіць на мяне цераз плячо вясёлымі вачыма:

— Я ўжо ведаю, як пісаць. Зробім ім артыкулец. Заўтра ён прыйдзе — атрымай, дружа! Тады паглядзім, чый верх будзе. — І зусім весела дадае:— У аператыўнасці і ў далікатнасці.

З чалавекам, якога Колас назваў Размарынавым, спаборнічаць у далікацтве не даводзілася. Па зусім простай прычыне: гэтай якасці той не меў.

Канстанцін Міхайлавіч раз ці два перагаварыў, паслаў хадайніцтвы, і большасць просьбаў была задаволена. Аднак знаходзіліся новыя, і наведвальнік трымаў дом у аблозе: раніцай адмахнуцца, нібыта гаспадара няма дома, — прыходзіць у абед ці ўвечары.

Так здарылася і ў гэты адвячорак. Канстанцін Міхайлавіч закончыў навелу з «Казак жыцця» і меўся пачытаць. Мы сядзелі ў садзе. Нехта з хатніх прыстрашыў: «Хавайцеся лепш у дом, візіцёр можа наскочыць». Тады Канстанцін Міхайлавіч і вымавіў дзіўнае прозвішча — Размарынаў. І ледзь паспеў гэта зрабіць, лёгкі на ўспамін і на нагу чалавек быў на падыходзе.

Колас махнуў рукою:

— Паслухай яго. Я ўжо рады не дам: ён і за сябе, і за мяне гаворыць. — І накіраваўся ў глыбіню саду, а пасля праз бакавыя дзверы — у дом.

Задача выпала не з лёгкіх. Чалавек сыпаў чэргамі з аўтамата — цэлы дыск зараз. Паўхвіліны на замену — і новы дыск. Спружына была накручана туга, завод не сыходзіў, чалавек ніяк не мог выгаварыцца, наадварот, чым больш гаварыў, тым больш заводзіўся на гаворку.

Тым часам ні турбота, з якою з'явіўся сюды, ні цяжкасці, якія заміналі яму, не рабіліся для мяне яснейшымі. Наверсе чакаў Колас, надужаць яго цярплівасць было нельга. Сяк-так укараціўшы размову, і то праз абяцанне дагаварыць заўтра, я падняўся да Канстанціна Міхайлавіча. Ён размаўляў з Іосіфам Зінковічам, тагачасным карэспандэнтам «Правды» ў рэспубліцы. Ён вярнуўся з калгаса і расказваў пра паездку.

— Ну, хапіла па самую завязку? — Зінковіч паблісквае вачыма. — А я даведаўся, з кім вы сядзіце, ды чорным ходам проста сюды.

— Вы таксама, відаць, пакаштавалі?— пытае Колас.

— Наспытваўся гэтага смаку — во!— Зінковіч праводзіць пальцам пад барадою. — Прыйдзе, гаворыць-гаворыць— канца краю няма. А спыніш, спытаеш, у чым жа ваша справа, — крыўдзіцца. «Як у чым?» І пачынае тое самае спачатку. Пра заслугі... — Зінковіч паварочваецца да мяне. — Што, няпраўда? Гэта чалавечак такога гатунку: гвалту поўна, а заслуг, як у кацяняці—яшчэ ніводнай мышы не злавіў.

Колас смяецца, відавочна здаволены — параўнанне ў народным духу.

— Я недаказаў, як да яго мянушка прыляпілася. Максім думае, што ад «Роз-Мары»: усё адна арыя—і з эстрады і з галаснікоў.

— А што, не ўгадаў?

— Не. Я ляжаў у гамаку, нядужылася. А гэты, як сеў пры боку, так і прымёрз. І завёў, як вы кажаце, катрынку. Слухаў я, слухаў, — засну зараз, думаю, так размарыла. Як падумаў, так і сказаў: «Заходзьце, кажу, другім разам, таварыш Размарынаў». Ён вочы паставіў, як на тыгра. Ну, я паправіўся, сказаў прозвішча, як след.

Зінковіч пасміхаецца і зараз жа змрачнее.

— Вы — чалавек добры, Канстанцін Міхайлавіч, і не хацелася б, каб да вашай дабраты смецце прыліпала. Як гэты... Ён жа носіць па ўсім горадзе: я ў Коласа — рана і ўвечар бываю, разам ем і п'ю. Ён без мяне, як без рук...

Колас насцярожваецца:

— Гэта вы да чаго?

— А каб не было якога злоўжывання вашым іменем. Праўда, выхваляння гэта выглядае, мякка кажучы, нікчэмна. Як у аднаго дзядзькі... Дазвольце расказаць, Канстанцін Міхайлавіч? — І Зінковіч працягвае: —Прыехаў той дзядзька з кірмашу, сеў каля хаты на прызбу і сядзіць надзьмуўшыся. Курыць крамную папяроску, а суседзям не дае. І ўсё моўчкі. Людзі і пытаюць: «Нешта ты сёння вельмі важны, Ігнат?» «А я вам не раўня». «Дык хто ж ты?» «Я сёння з самім гаспадзінам прыставам нагаварыўся». Ну, тут усе: ах ды вох, як, калі было. Расказвае: «Прыехаў у горад, гляджу — на рагу прыстаў стаіць. Я злез з воза, падышоў блізенька: «Здравія жалаю, ваша высокаблагароддзе!» А ён глянуў на мяне, памаўчаў крыху дый адказаў...» Тут зноў усе завойкалі: «Што ж ён хаця табе рэкнуў?» «Пайшоў ты, кажа, к нямытай маці, мужыцкая морда!» Вяскоўцы, хто: «хі-хі!» хто: «ха-ха!» А нехта смялейшы пытае. «І ўсё?» «Усё! — адказвае Ігнат. — Пайдзі, няхай табе столькі скажа».

— Дык што ж вы мне раіце, — з дакорам ківае галавою Колас. — Вас паслухаўшы, хлопцы, мне ад людзей браму замыкаць трэба. — Праз жарт у голасе Канстанціна Міхайлавіча прабіваецца горкая нотка. — Ну, няхай адзін які пасвісцёл і ўб'ецца, затое паўсотні добрых пабачу і пачую. Шкоды, па-мойму, тут няма.

Каб адцягнуцца ад непрыемнай размовы, бярэцца за рукапіс, і праз хвіліну мы пераносімся ў алегарычную плынь казкі.

Навела ўдалася, Колас ведае гэта сам і цяпер чытае пацвярджэнне на нашых тварах. Надыходзіць тая добрая хвіліна, калі лёгка думаецца і гаворыцца, калі мастацкі твор змушае гаварыць не пра сябе, а пра ўсё, з чаго ён вырас, куды кіруецца, пра выпадковыя, здаецца, рэчы. А сам, абудзіўшы мноства думак і вобразаў, прысутнічае сярод людзей на правах паўнамоцнага, хоць і маўклівага, суразмоўніка.

Развітваючыся, Колас напамінае:

— Вы на таго малайца не наракайце. І крыўдзіць яго не трэба. Ці мала каля літаратуры людзей ходзіць? Каб на воку пабыць, а можа якое слова дзе закінецца. Ёсць асабліва трапяткія, адчувае, небарак, што ў славе ён не паплыве, дык можа хоць калошы замочыць. І гэты хоча выбіцца. Толькі няграматны ён зусім.

Але нічога, перачакаўшы крыху, яшчэ і ўспаміны пра нас з вамі напіша. — Канстанцін Міхайлавіч стрымлівае на паўдарозе ўсмешку: — А ўсё ж не трэба шкадаваць на людзей добрага слова. Навят калі яны потым прыманяць, пішучы ўспаміны.

---

Якаў ХЕЛЕМСКІ

# ЖЫЦЦЁ МАСТАКА БЯЗМЕЖНАЕ

Я ўпершыню сустрэўся з ім у сорак першым, у Маскве, у гарачы і горкі час. Мне трэба было б адразу пазнаць яго, чые партрэты нярэдка з'яўляліся ў кнігах і ў перыёдыцы. Але чалавек, які пераступіў парог рэдакцыйнага пакою, не быў у тую хвіліну падобны ні на адзін са сваіх воблікаў.

Яго схуднелы няголены твар, прапалены спякотай, выглядаў чырвоным, а скрозь гэты нядобры загар праступала пакутлівая бледнасць. І я, яшчэ не зразумеўшы, хто перада мною, адразу і беспамылкова адчуў — ён прыбыў адтуль. Адтуль, дзе гараць гарады і збажына, дзе зацягнутае дымам сонца палае над пыльнымі дарогамі, над бомбавымі варонкамі, над абозамі бежанцаў. Ён з'явіўся з гэтага пачатковага горніла вайны, з сумнага і мужнага патоку страт, нястач, рашучасці. Здавалася, усё пeражытае навек адлюстравана ў смутных яго вачах, крыху затененых казырком палатнянага картуза.

Гэтыя вочы цяпер аглядалі пакой, але, бадай, не бачылі яго, як не бачылі і мяне, калі я падняўся з крэсла. Не, усё ж такі бачылі—чалавек прывітальна кіўнуў галавой, а я адказаў: «Добры дзень».

— У нас дарагі госць, — аб'явіла Люда Траццякова, якая прывяла незнаёмца,—я толькі што сустрэла яго паверхам ніжэй, у «Правде», і ўгаварыла зайсці да нас у «Камсамолку», крыху перадыхнуць.

Траццякова—рэпарцёр нашага літаратурнага аддзела — ведала ўсіх. І ўсе ведалі яе.

— Дзякуй, Людміла, — ціха адказаў госць.

— Сядайце, сядайце, — запрашала яго Траццякова,—у нас тут ценявы бок і не так горача. Мы вас ні аб чым распытваць не будзем. І нават вершаў не патрабуем. Проста адпачніце. — І дадала па-беларуску: — Калі ласка!

У адказ пачулася нягучнае «дзякуй», і чалавек цяжка апусціўся на рэдакцыйную канапу, зацягнутую белым летнім чахлом.

Гэты напамінак аб вершах і «калі ласка» і «дзякуй» — божухна мой!— усё пачало станавіцца на месца. Як жа я адразу не здагадаўся, хто ў нас у гасцях!

Прысеўшы, чалавек зняў картуз, выцер хустачкай высокі лоб, упалыя шчокі, вусы і слаба ўсміхнуўся. І адразу праступіла падабенства з партрэтамі, хаця і сапраўды нялёгка было пазнаць яго, сутулага, выветранага горам і сонцам, у пакамечаным і перапэцканым глінаю пінжаку, у кашулі з адшпіленым каўнерыкам, толькі запінка блішчэла на горле.

Скаванасць мая прайшла.

— Яшчэ раз добры дзень, Канстанцін Міхайлавіч!—я падышоў да яго. — Даруйце, што адразу не пазнаў.

— Гэта не дзіва, — адказаў ён,— напэўна, пасля ўсяго, што здарылася, сам на сябе не падобны. Свае дзеці і тыя б не пазналі Якуба Коласа...— ён паглядзеў на мяне ўважліва і спытаў:—А мы хіба з вамі знаёмы былі?

— Не,—адказаў я, прадстаўляючыся яму, — не былі... Па праўдзе кажучы, так: я з вамі даўно знаёмы. А сустракацца не даводзілася.

— А я думала, сустракаліся! — усклікнула Люда.

Я наліў з сіфону газіраванай вады — захоўвалася яшчэ ў рэдакцыі гэта даваенная раскоша, — і падаў Коласу. Ён адшпіліў запінку на горле і, прыняўшы шклянку, зрабіў некалькі вялікіх глыткоў. Лёгка ўздыхнуў. Потым ціха сказаў:

— Вось і засталіся мы, беларускія бежанцы, без роднае зямлі пад нагамі, без даху над галавою...

Потым папрасіў:

— Пытацца ў мяне, праўда, ні аб чым не трэба. Не магу расказваць.

Люда пачала гаварыць аб тым, што хутка спынім ворага і пагонім назад. Я дадаў, што ўсё захопленае, вядо-

---

Максім РЫЛЬСКІ

# ЯКУБУ КОЛАСУ

**Дзе цёзка ваш па прозвішчу Адам**
**Пабачыў свет, — у тым лясістым краі**
**Вы нарадзіліся. Заўсёды любы вам**
**Вясковы шум, што па гаях гуляе.**
**Паэму прысвяцілі вы лясам,**
**Дзе месца для ідылій не бывае:**
**У бітву ў дні Айчыннае вайны**
**Ішлі там, Беларусь, твае сыны.**

**Былі душою вы і сэрцам з імі,**
**Як непахісны партыі салдат.**
**Між воінаў ішоў паэт любімы**
**Супроць фашысцкіх танкаў і гармат.**
**Што напісалі вы — ніколі не загіне,**
**Не вершы то! Штось большае ў сто крат:**
**То сэрца боль, то кроў цяжкое раны...**
**Дык ганарыцеся ж медалем партызана!**

**Дарога ваша ясная была,**
**Кастрычнік стаў дарогаўказам верным.**
**Там, дзе дрыгва ляжала ля сяла,**
**Заводы-гмахі сілаю нязмернай**
**Народ будуе. У нябыт сплыла**
**Галеча-нэндза. У паходзе мерным**
**Ідзе да светлай явы Беларусь,**
**Дзе Скарына ажыў, ажыў Кастусь.**

**Героі вашы — рыбакі, музыкі,**
**Араты рупны, воін і цясляр.**
**А праца ваша — ідэал вялікі.**
**З пашанай кніжкі вашыя, пясняр,**
**Ляжаць на покуце, як найвялікшы дар.**
**Іх зберагуць праз пакаленні, годы**
**Савецкае краіны ўсе народы.**

**Шаўчэнка, Пушкін — то для вас былі**
**Настаўнікі, а сябрам быў Купала.**
**Дык дзякуй вам і дзякуй той зямлі,**
**Што вас расціла, песні вам спявала!**
**Маскве паклон і зорам, што ў Крамлі,**
**Для вас, для нас нягаснучы заззялі!**
**Дык дзякуй вам, араты і пясняр,**
**Вы роднай ніве аддалі свой дар.**

30 жніўня 1952 г.

Пераклаў з украінскай Р. НЯХАЙ.

# ЧАЛАВЕК ВЯЛІКАЙ ДУШЫ

## М. МІЦКЕВІЧ

**Аўтар гэтых нататак, Мікола Іванавіч Міцкевіч,—сын таго «дарэктара» Яські, вобраз якога нам так вядомы па «Новай зямлі». Будучага паэта вучыў грамаце хлопчык, які**

**...летась скончыў школку**
**І веды меў у адну столку,**
**Дый тых патраціў з палавіну,**
**У поле гонячы скаціну.**

**Сын яго — член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР. І ў гэтым таксама —тое новае, што даў беларусам Вялікі Кастрычнік.**

МНЕ ПАШЧАСЦІЛА ў гады юнацтва жыць у сям'і народнага паэта Беларусі Якуба Коласа.

Упершыню я ўбачыў Канстанціна Міхайлавіча ў 1921 ці ў 1922 годзе, калі Я. Колас прыязджаў з Мінска ў мястэчка Астрашыцкі Гарадок да майго хворага бацькі — Івана Васільевіча Міцкевіча.

Другая сустрэча з Якубам Коласам ужо адбылася пасля смерці бацькі ў 1926 годзе, калі Канстанцін Міхайлавіч запрасіў мяне на два дні ў сваю сям'ю ў Мінск. Тут у першы раз я ўбачыў сыноў Я. Коласа — Данілу і Юрку.

Якуб Колас са сваёй вялікай сям'ёй жыў у гэты час на прыватнай кватэры. Канстанцін Міхайлавіч будаваў свой драўляны дом па Вайсковым завулку (зараз гэта тэрыторыя парку імя М. Горкага; на жаль, у першыя дні вайны дом згарэў).

Мне пашанцавала ў 1928—33 гг. жыць у гэтым доме разам са старэйшым сынам пісьменніка—Данілам Канстанцінавічам. Я з вялікай прыемнасцю ўспамінаю тыя дні. Хоць і былі мы з Данілам аднагодкі, але ён як бы замяніў мне старэйшага брата. Пад яго ўплывам я рос, па яго парадзе стаў хімікам.

За нашым праходным пакоем быў якраз кабінет Я. Коласа, дзе ён звычайна працаваў. Прыгадваю: у гэтыя гады Канстанцін Міхайлавіч пісаў вельмі многа. І мне хочацца расказаць пра тое, што, магчыма, мала вядома шырокаму чытачу — пра рабочы дзень вялікага пісьменніка.

Уставаў Я. Колас вельмі рана. У доме было пячное ацяпленне, і таму ён праводзіў зранку нешта накшталт фіззарадкі — пілаваў і калоў дровы. Пачынаў гэту работу Я. Колас звычайна адзін, потым прыходзілі ці я, ці хто-небудзь са старэйшых сыноў і дапамагалі Канстанціну Міхайлавічу пілаваць. Затым Я. Колас—заўсёды толькі сам — калоў дровы на ўвесь дзень, разносіў іх па пакоях і запальваў печку ў сваім кабінеце.

У гэты час у доме ўжо звычайна ўставалі. Канстанцін Міхайлавіч снедаў, ішоў у кабінет працаваць. Калі пісаў Канстанцін Міхайлавіч, дык збоку нам тады здавалася, што ўсё гэта вельмі проста: хутка ўкладваўся радок за радком, правак у напісаным было зусім мала. Пасля абеду Канстанцін Міхайлавіч заўсёды адпачываў, а потым зноў працаваў у сваім кабінеце да вячэры.

Канстанцін Міхайлавіч, быў ветлівы і гасцінны. Праўда, ён любіў больш слухаць. Часта да яго заходзілі беларускія паэты і пісьменнікі, асабліва Янка Купала, з якім Канстанцін Міхайлавіч любіў яшчэ гуляць у шахматы.

У суботу вечарам і ў нядзелю ўвесь дзень у сям'і Я. Коласа было мнагалюдна, збіраліся сваякі, знаёмыя.

Нярэдка, у час вячэры, Канстанцін Міхайлавіч чытаў урыўкі з напісанага, тое, што яму здавалася найбольш удалым. Слухалі мы ўсе звычайна, як зачараваныя.

Летам Канстанцін Міхайлавіч адпачываў у Беларусі на ўлонні прыроды. Звычайна ён ехаў разам з усёй сям'ёй у вёску недалёка ад Мінска, здымаў частку хаты ў мясцовых сялян. Памятаю, што некалькі год сям'я Я. Коласа адпачывала ў раёне Ждановіч, у Воўкавічах і Тальцы. Выбар месца адпачынку быў звязаны з тым, што Канстанцін Міхайлавіч надта любіў збіраць грыбы, і таму падбіраў вясковую хату ўзбоч лесу.

Якуб Колас быў чалавекам вялікай душы. І гэтыя нататкі мне хочацца закончыць успамінамі пра адну цікавую і вельмі важную для мяне асабіста падзею, якая адбылася ўжо ў час вайны.

У 1942 годзе я атрымаў з Масквы паведамленне, што Я. Колас жыве ў Ташкенце, і напісаў яму пісьмо. Канстанцін Міхайлавіч адразу адказаў. Як было прыемна атрымаць гэтае пісьмо! Трэба ўлічыць, што мае землякі, як і я, амаль не атрымлівалі пісем на фронце, бо наша Беларусь была ў гэты час акупіравана фашыстамі. Вы можаце ўявіць сабе, колькі хвалявання, радасці прынесла нам пісьмо Канстанціна Міхайлавіча! Чыталі мы яго з захапленнем, бо было яно адрасавана не толькі мне, а ўсім савецкім воінам. Колас пісаў:

«Мы ўжо другі год, як апынуліся ў Ташкенце. Зімою была надзея на зварот у сваю краіну, цяпер яе няма. Вайна прымае зацяжны характар. Немцы залезлі вельмі далёка, к таму ж яны, як кляшчы, замацоўваюцца ўсюды, куды ім давялося прабіцца». У гэтых словах і сум па родным кутку, па маці-Радзіме, і нянавісць да ворага-захопніка, што асабліва выразна праяўляецца ў апошніх словах пісьма: «...покі што трэба жыць адной воляй—зламаць Гітлеру і дзесяткам мільёнаў гітлерыкаў хрыбеціну і загнаць асінавы кол у іх магілу. Вось чаму трэба ўсё намаганне накіраваць на знішчэнне ворага. Кожны забіты немец — гэта крок да вызвалення нашай зямлі. Кожная знішчаная нямецкая дывізія — гэта ўжо дзесяць міль. Дык біце ж нямецкіх разбойнікаў, і чым больш, тым лепей!..».

Пасля вайны я перадаў гэта пісьмо ў Літаратурны музей Якуба Коласа.

ма ж, вернем у бліжэйшы час. А што яшчэ маглі мы сказаць?

— Не, маладыя людзі, не так усё проста, — паківаў галавою Колас, — я ж толькі што з пакінутага і палаючага Мінска, бачыў, што яны робяць, і ўсю машынерыю іх бачыў... Вайна гэтая не на месяц, нават не на год. Яны хочуць з намі хутка справіцца—не атрымаецца ў іх так. Але і мы іх не адразу зломім. Шмат крыві пральецца. І не адразу ўбачым Мінск і іншыя землі. Убачым абавязкова, але час спатрэбіцца. Калі б не мае гады — неўзабаве шэсцьдзесят — паехаў бы прама на фронт. А мне загадваюць ваяваць вершамі...

Ён узняўся:

— Ну, дзякуй. Адпачыў у вас, астыў. Халаднавата тут і вада добрая. Усё ж пайду. Аслабеў я ў дарозе, але і сядзець няма калі.

Ужо на парозе Колас сказаў:

— Вось вершаў пакуль няма. Але прышлю вам, абавязкова прышлю.

●

Цяпер, праз шмат гадоў, гэтае мімалётнае спатканне з Коласам у трывожнай ваеннай Маскве, у рэдакцыі «Комсомольской правды», уяўляецца мне хвалюючай прадмовай да маёй франтавой сустрэчы з беларускай паэзіяй, якая адбылася восенню таго ж сорак першага на бранскай зямлі, да сустрэчы, якая цягнецца дагэтуль.

Бяру з паліцы знаёмы том і перачытваю радкі, якія бяруць за душу:

**Я чую голас несціханы—**
**Зямля мая мяне заве**
**І кроіць сэрца мне на раны,**
**Звініць, як звон касы ў траве.**

Можа быць, гэтыя чатыры радкі нарадзіліся ў яго, калі ён пакідаў палаючы Мінск, свой дом над Свіслаччу, калі скрозь грукат бамбёжкі, рыпенне колаў і дзіцячы плач, чуўся яму кліч зямлі, шчымлівы і чысты, як звон касы ў ліпеньскіх травах.

І я зноў бачу яго на рэдакцыйнай канапе, перажываючага страшную страту, разумеючага працягласць і бязлітаснасць выпрабавання і ўжо гатовага да яго.

Ён убачыў аблічча вайны раней многіх з нас. І гэтага хапіла яму на ўсе цяжкія гады. І хоць яго не было з намі на фронце — перашкодзілі ўзрост і здароўе — ён ваяваў вершамі. Ваяваў, як і іншыя салдаты паэзіі, якія не па сваёй волі аказаліся ўдалечыні ад пярэдняга краю, але ўсё роўна дзейнічалі ў акопах перадавога ахоўвання, у гушчыні схваткі. Так дзейнічалі Міхаіл Ісакоўскі і Паўло Тычына, Аветік Ісаакян і Самуіл Маршак, Гамзат Цадаса і Гафур Гулям. Так ваяваў да апошняга ўздыху Янка Купала.

Сёння, чытаючы даўнюю перапіску Коласа, мы з асаблівай сілай адчуваем, як было яму цяжка ў тыя гады. Вось толькі некалькі радкоў, адрасаваных сябру:

«С удовольствием послал бы письмо сыну на фронт, но не знаю, что с ним — последнее письмо от него было 20 сентября прошлого года. А обращать письмо быть может к уже несуществующему человеку — не получается»...

Гэта напісана ў студзені сорак другога. А колькі яшчэ ўперадзе страт!

Але калі да нас прыходзілі яго вершы, якія цяпер сталі хрэстаматыйнымі, а тады абпальвалі, гучалі паўсюдна: на газетнай паласе, на лістоўцы, прызначанай для партызан і жыхароў акупіраваных раёнаў, мы толькі маглі здагадвацца, як яму там, у тыле, таму што радкі яго былі поўныя мужнасці, святла, аптымізму.

І ў паходнай рэдакцыі газеты «За Советскую Белоруссию», якая была па-суседству з франтавою — «На разгром врага», яго вучні і сябры лічылі «дзядзькаў Якуба» ў сваім страі.

Я сустракаўся з ім разы два пасля вайны — у Маскве, у час беларускай дэкады і ў Мінску — у дні з'езда пісьменнікаў. Сустрэчы гэтыя таксама былі кароткімі, у кулуарах, і сказана было нямнога, а засталося адчуванне важкага і добрага для мяне.

Мне не давялося яго перакладаць, аб чым я горка шкадую. Але ў той час я яшчэ толькі пачынаў, а ён ужо быў акружаны даўнімі сябрамі-перакладчыкамі і, бадай, не імкнуўся расшырыць гэтае выпрабаванае кола. А я яшчэ не меў рацыі падступіцца да такой задачы, як пераклад вершаў жывога класіка, а тым больш яго эпічных твораў.

Нядаўна я пазнаёміўся з цікавай работай В. Рагойшы, у якой відаць адносіны Коласа з яго перакладчыкамі, яго ўдзел ва ўдасканаленні рускага тэксту сваіх твораў. Колькі спагадлівасці да сябе і другіх, тонкага густу, пачуцця меры, адчування слова беларускага і рускага! Які гэта прадметны ўрок для ўсіх нас, аўтараў і перакладчыкаў!

Успамінаю, як пасля смерці Коласа група маскоўскіх літаратараў наведала дом, дзе паэт правёў апошнія гады жыцця. Усё тут рабіла ўражанне, усё сведчыла аб характары гаспадара дома — яго кнігі, рукапісы, асабістыя рэчы, нават такая дэталь, як грушавыя і ядлоўцавыя палкі, выразаныя ім у час прагулак. Але асабліва ўсхвалявалі апошнія словы, выведзеныя яго рукою на паперы—пачатак пісьма да Яўгена Мазалькова.

Адрасат быў тады з намі. І Міхаіл Святлоў, які прысутнічаў, глыбока ўсхваляваны, сказаў, абняўшы Мазалькова:

— Які высокі гонар — у апошнія мінуты ён думаў аб вас, старым спадарожніку і перакладчыку. Гэта, як ордэн Дружбы!

Тады ж, даведаўшыся, што Колас перад сваім домам, сярод гарадской мітусні, сеяў жыта, Міхаіл Аркадзьевіч заўважыў:

— Вы толькі ўявіце сабе — не цюльпаны, не ляўкоі якія-небудзь, а жыта! Калі б Колас нічога больш у жыцці не зрабіў, ён усёроўна стаў бы прызнаным паэтам. Толькі паэт здольны на такое.

Сапраўдны мастак заўсёды больш і шырэй сваёй друкаванай спадчыны. Здавалася б, колькі пражыта, колькі зроблена! Але паэт працягвае расці ў вачах чытачоў, вырысоўваюцца ўсё новыя і новыя рысы яго аблічча. Мы яшчэ шмат пазнаем пра Коласа новага, як пазналі ў свой час з выдатнай кнігі Максіма Лужаніна, дзе перад намі паўстала лабараторыя майстра, раскрыліся неабсяжныя запаснікі яго памяці, яго задум, яго мудрасці. Успомнілася хэмінгуэеўскае параўнанне мастака з айсбергам.

Няхай многае на віду, але яшчэ больш схавана ў глыбіні. Нам дорага ўсё — думкі паэта аб прыродзе, яго фальклорныя знаходкі і жартаўлівыя прытчы, літаратуразнаўчыя экскурсы і цудоўны вусны трактат пра песні салаўёў. І тое, што, аказваецца, Колас любіў рамантычную прозу Грына. І тое, што аб сваім жыцце пад гарадскімі вокнамі сказаў: «Усе свае паэмы я пісаў на паперы, а вось адну паспрабаваў проста на зямлі»... Як гэта супадае з тым, што гаварыў Святлоў!

Так, мы яшчэ не раз пачуем новае пра Коласа. Ён многа сказаў нашаму дню і многа скажа заўтрашняму. І мы не раз падумаем, пра тое, як крыўдна кароткае нават доўгае жыццё мастака. І як яно ўсё ж такі бязмежна.

**НАВІНКІ КНІЖНАЙ ГРАФІКІ**

*ГЭТА — рэпрадукцыі з гравюр мастака В. Шаранговіча да юбілейнага мініяцюрнага выдання вершаў Якуба Коласа, якое толькі што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».*



Ужо даўно вяроўкі
Вас, паны, чакаюць,
І па вас асіны
Слёзы праліваюць.



Зямелька ўся
Ускалышацца,
Дажджом яна
Абмыецца.



Змоўкла ў прасторах песня старая,
Скаргі адвечны палон;
Вольная праца нас адарае
Песняю радасных дзён.



Клянёмся табе над магілай,
Наш верны таварыш і брат:
Мы знішчым фашысцкую сілу,
Жывою не пусцім назад.



Паўло ТЫЧЫНА

# ЧЫСТЫ І ЧЭСНЫ

Гэта шчырае слова незабыўнага нашага Паўла Тычыны пра выдатнага беларускага паэта, празаіка і публіцыста Якуба Коласа да гэтага часу яшчэ не бачыла свету ва ўкраінскай прэсе. Напісанае па-руску і, мяркуючы па яго зместу, не закончанае аўтарам, таму і не падрыхтаванае да друку, яно да апошняга часу знаходзілася сярод архіўных матэрыялаў, якія засталіся пасля смерці паэта-акадэміка на яго кватэры.

Удава пісьменніка Лідзія Пятроўна Тычына ветліва згадзілася перадаць гэтыя некалькі старонак тэксту для публікацыі на старонках беларускага штотыднёвіка з нагоды 90-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа.

У святочны дзень братняга беларускага народа, які 90 гадоў назад даў свету вялікага паэта Якуба Коласа, слова П. Тычыны гучыць як братняе прывітанне ад Савецкай Украіны.

Ганна ЗАЯЦ.

Я ШЧАСЛІВЫ, што ведаў Якуба Коласа (Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча). Вобраз яго заўсёды жыве са мной, у маёй душы. Ды не, не проста жыве, а ў меру плыні надзвычай хуткага нашага часу—ён усё больш і больш вырастае перада мной як вобраз паэта, педагога, вучонага, гуманіста, грамадскага і палітычнага дзеяча, рэвалюцыйнага барацьбіта за свабоду. «Шлях партыі,—заявіў Якуб Колас,—гэта мой шлях, і з гэтага шляху я не сыду давеку».

Якуба Коласа, як і Янку Купалу, я шчырым сэрцам палюбіў яшчэ з першага майго знаёмства з імі. Абодва яны адразу ж блізкімі і роднымі сталі мне. І чым? Якой рысай свайго душэўнага ўкладу?

Тое, што скажу я пра аднаго, характэрна будзе і для другога.

У жыцці сваім Якуб Колас быў просты і звычайны. Ён не любіў наўмыснасці, — ні ў падкрэсліванні слоў, ні ў лішняй жэстыкуляцыі. І адначасова быў смелы і адважны.

Ён ніколі не мірыўся з царскім самаўладствам. Пасля адбыцця турэмнага зняволення яшчэ больш актыўна праявіў сябе ў барацьбе з прыслужнікамі царызму, памешчыкамі, капіталістамі. Змагаўся ён не толькі за сябе, а і за вызваленне прыгнечанага народа — як беларускага, так і іншых народаў тагачаснай Расіі. Ад імя ўсіх гэтых народаў, у першую чаргу ад імя ўбогага гаротнага беларускага народа Якуб Колас у 1906 годзе смела кінуў у самы твар катам свой бясстрашны выклік:

**Багачы, і панства,**
**І ўсе вы брадзягі!**
**Убок з дарогі, каты!**
**Бойцеся сярмягі!**

У гэтых і падобных да іх радках відаць уплыў рэвалюцыйнай гнеўнай паэзіі Тараса Шаўчэнкі, якая крышыць усё. Мы, украінцы, удзячны класікам беларускай літаратуры Якубу Коласу і Янку Купалу за тое, што яны яшчэ ў дарэвалюцыйную жахлівую пару перакладалі творы Тараса Шаўчэнкі на беларускую мову і што дзякуючы іхнім перакладам «Кабзар» украінскага генія стаў любімай настольнай кнігай працоўных Беларусі.

З вялікай любоўю ставіўся Якуб Колас да рускіх пісьменнікаў, асабліва да Пушкіна. «Калі б не было Пушкіна,—казаў ён,—то не было б, напэўна, і маіх паэм «Новая зямля» і «Рыбакова хата». У гэтым прызнанні — вялікая чысціня і сумленнасць пісьменніка, бо Якуб Колас тут не толькі прызнае прамы ўплыў на яго паэзіі Пушкіна, а яшчэ і ўзаконьвае самога сябе духоўным сынам рускага генія.

Высока ўзняў Якуба Коласа і Янку Купалу сваёю шчодраю падтрымкай Максім Горкі. Многа было агульнага ў біяграфіях названых мною трох пісьменнікаў: і галаданне, і праследаванне жандарамі, і вандраванні, і турмы. Але Максім Горкі, як мне здаецца, паклаў свае рукі сябра на плечы Янку Купалу і Якубу Коласу яшчэ і таму, што ведаў, што быў упэўнены: рэвалюцыйныя песняры долі беларускага народа абавязкова перададуць сваю творчую сілу таксама і пісьменніцкай моладзі Беларусі.

Так, Максім Горкі не памыліўся. Уся тая літаратурная моладзь, якая пачала збірацца ў дзвярах беларускай савецкай літаратуры пасля смерці двух паэтаў-класікаў Янкі Купалы і Якуба Коласа, у пераважнай большасці сваёй працягвала і працягвае іх традыцыі. Не ў літаральным, вядома, утварэнні форм і гучанні слоў трэба разумець гэта працягванне традыцыі, а—самае галоўнае — у праўдзівым паказе нашага багатага савецкага жыцця.

...Чуў я пра Якуба Коласа даўно, яшчэ калі вучыўся ў Чарнігаве. Мы з Васілём Эланам даставалі кніжкі беларускіх пісьменнікаў. А па-сапраўднаму ўжо даведаўся пра яго ў студэнцкія гады, у горадзе Кіеве, у пачатку 1914 года.

...Я бязмежна рады, што давялося мне яшчэ пры жыцці Канстанціна Міхайлавіча рэдагаваць зборнік яго твораў у перакладзе на ўкраінскую мову. Я дужа блізка пазнаў яго ў час Антыфашысцкага кангрэсу, скліканага Анры Барбюсам у 1935 годзе ў Парыжы. Нямала там гаварылі мы з ім на тэму ўмацавання дружбы народаў Савецкага Саюза. Радасна сустракаліся мы з ім на сесіях Вярхоўнага Савета ў Маскве, на мітынгах у абарону міру, а таксама пры сустрэчах у Мінску і Кіеве.

...І вось — у 1956 годзе ён раптам пакінуў нас.

Ды ці азначае гэта, што Якуб Колас пайшоў ад нас назусім, назаўсёды? Вечная змена жыцця і пастаяннае абнаўленне матэрыі ў Сусвеце пярэчыць гэтаму...

Моцны духам быў Якуб Колас— моцны, мудры і цудоўны. Няхай жа атрымаюць у спадчыну цяпер усю магутнасць, усю мудрасць і прыгажосць яго творчай душы маладыя пісьменнікі ўсіх рэспублік і абласцей нашай неабсяжнай Бацькаўшчыны. Няхай жывуць і развіваюцца нашы маладыя сілы.

Назва артыкула дадзена перакладчыкам.

# ШЛЯХАМ ЖЫЦЦЯ



1901 г.



1908 г.



1913 г.



1921 г.

Іван НОВІКАЎ

# НЕЗАБЫЎНАЕ

У памяці на ўсё жыццё засталося першае ўражанне ад сустрэчы з Коласам. Не з самім Канстанцінам Міхайлавічам, а з яго «Сымонам-музыкам».

Было мне тады можа гадоў дванаццаць ці трынаццаць. Я пасвіў калгасны статак у лесе. Ішла вясна, звінеў цэлы аркестр птушыных галасоў, кожная травінка, кожнае дрэўца радаваліся жыццю.

Я павольна крочыў за статкам і чытаў. Гэта нельга было назваць чытаннем. Пад магічнай сілай мастацкага слова я пераўвасобіўся ў Сымона-музыку. І ўжо не ён, а я чуў,

Што гаворыць жытні колас
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго спявае ўголас
Мушка, конік, авадзень,
Што ўгары, над срэбрам жыта
Пяе жаваранак той
Так прыгожа, самавіта,
І за чым у высь блакіту
Ідзе ветрык пехатой...

Усё наваколле змянілася, пераіначылася. Са мной загаварылі на сваёй мове статныя беластволыя бярозы, а на ўзлеску калматыя прысадзістыя дубы сустракалі мяне добразычлівым шэптам, я разумеў, аб чым шчабечуць заўжды вясёлыя ластаўкі і пра што цурчыць лясная ручаінка. Паэт нібыта зняў з мяне шчыльныя навушнікі і адарыў тысячамі галасоў бязмежна багатай беларускай прыроды.

Пасля я многа чытаў і беларускіх, і рускіх, і замежных пісьменнікаў, хадзіў пад уражаннем прачытанага, перажываў разам з героямі, але пэўна скажу, што ніхто з іх не даў мне такой вялікай асалоды і такога шчасця пазнаць і палюбіць родны кут, які даў Якуб Колас. І ніхто так не навучыў мяне паважаць і любіць людзей, жыць іх жыццём, даражыць іх увагай, як навучыў сваімі творамі Якуб Колас.

Пасля, працуючы ў рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», я не раз сустракаў Канстанціна Міхайлавіча. Ён часта заходзіў да нас не толькі па справе, але і проста так, каб пагаманіць. Кожная такая сустрэча была для мяне вялікай падзеяй, бо я бачыў перад сабой чараўніка слова.

Але шчыра прызнаюся, што ў жыцці ён не здаваўся мне такім казачным чараўніком, якім я ўявіў яго сабе з дзяцінства. Я бачыў звычайнага дзеда, з амаль сялянскім тварам, з сялянскай хітрынкай у вачах, з тонкімі сялянскімі жартамі. Чамусьці ўвесь час я адчуваў, што па свайму вобліку, нягледзячы на высокія ганаровыя і акадэмічныя званні, ён застаўся назаўсёды чалавекам вясковым, неадрыўным ад роднай прыроды. І пры кожнай такой сустрэчы мне ўспамінаўся Сымон-музыка, якога нарадзіў і якому даў вечнае жыццё вялікі Колас. Даў гэта жыццё, каб узбагачаць душы мільёнаў сваіх удзячных чытачоў, вучыць іх вялікай любові да роднай зямлі, роднага народа.

Антон БЯЛЕВІЧ

# У ДВОРЫКУ ПАЭТА

УРЫВАК З ПАЭМЫ

**Зялёны, як трава, тынок,**
**Яшчэ ён свежы, новы.**
**А за тынком стаіць дамок**
**У шолаху сасновым.**

**Як з медзі, стромкія ствалы**
**У дворыку паэта.**
**Плыве густы настой смалы,**
**Духмян кары нагрэтай.**

**Якуб на лавачку прысеў,**
**Задумны, самавіты,**
**Глядзіць на ўласны свой пасеў,**
**На маладое жыта.**

**Пасеяў, як і людзі ўсе,**
**Зярняты ён увосень.**
**Расце. Стаіць яно ў красе.**
**Яшчэ не налілося.**

**Ад жыта хлебны дух плыве,**
**Нібыта на зажынках,**
**Глядзіць паэт: у сіняве —**
**Ніводнае хмурынкі.**

**«Загончык можна арасіць,**
**А як усе палеткі!..**
**Нам, неба, дождж ык атрасі,**
**Хоць не густы, хоць рэдкі».**
**Ён усміхнуўся. Ён прасіў**
**Дажджу, як быў падлеткам:**

**— Дождж ык, дождж ык, добра ўрэж!**
**У разорах каля меж**
**Паскачыся трошкі**
**На срабрыстых ножках.**
**Прабяжыся па аўсе,**
**Па жыце, па лёну,**
**І працокай па страсе,**
**Па ліпе, па клёну.**
**Мне галоўку намачы, —**

**Падрасту я трошкі.**
**Дождж ык, дождж ык, паскачы**
**На срабрыстых ножках!**
**З далёкіх вёснаў, даўніх лет**
**Душою слухае паэт**
**Свайго маленства голас...**
**У двор зайшоў з кіёчкам дзед,**
**Сказаў: — Дзень добры, Колас.**
**Пазнаў ці не!**

**— Ты хто такі!**
**Сядай! Адкуль прыдыбаў!**
**— А мы з табою — землякі.**
**За Стоўбцамі сядзіба**
**Мая была ды паплыла**
**Хмарынай дыму ў неба,**
**А ні двара, а ні кала.**
**А хатка трэба! Трэба,**
**На лес квіток даў сельсавет,**
**Лес, праўда, нехарошы...**
**Сядзіць у роздуме паэт:**
**— Што! Грошы трэба!**
**— Грошы.**

Уолтэр МЭЙ

АНГЛІЯ

# СКАРБНІЦА ПАЭЗІІ

КАБ АДДАЦЬ належную даніну павагі Якубу Коласу, трэба прачытаць яго эпічныя паэмы — яны складаюць грунтоўную частку яго творчасці. Па сваёй размашыстай, яркай і палымянай жыццёвасці яны нагадваюць мне вядомыя «Кентэрберыйскія апавяданні» вялікага бацькі нашай літаратуры — англійскага паэта Дж. Чосера (1340—1400). Тут многа падобнага — і ў мастацкім пранікненні ў жыццё, і ў псіхалогіі герояў. Той жа філасофскі настрой, народная мудрасць, гумар, тая ж спакойная іронія, тое ж прыроднае пачуццё справядлівасці і чалавечай годнасці.

Для перакладу твораў такога маштабу мне, на жаль, бракуе сілы, але я быў так глыбока крануты лірыкай Коласа, што жаданне перакласці некаторыя яго вершы не давала мне спакою. На працягу пяці год з таго часу, як я прачытаў яго вершы, мяне не пакідала зачараванасць іх жывой красой, рэвалюцыйным агнём, глыбокай шчырасцю і гуманнасцю.

Урэшце, з дапамогай Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага Таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі я прыступіў да выканання сваёй задумы.

І што я адкрыў? Як можна перадаць карціну гэтай скарбніцы літаратуры?

Калі шукаць паралелі да твораў Коласа, то ёсць толькі адзін кірунак, куды можна звярнуць позірк — на творчасць яго шматгадовага сябра і саратніка, паэта Янкі Купалы. Сапраўды, разглядаць гэтыя два імені паасобку было б цяжка. Агульнапрызнана, што Купала і Колас — два асновапаложнікі сучаснай беларускай паэзіі.

Я пазнаёміўся з Купалам раней, чым з Коласам. Але, вывучаючы жыццё і творчасць Купалы, непазбежна сутыкаўся з Коласам, бо іх лёс непарыўна пераплецены. Калі мы коратка прасочым іх жыццё, то ўбачым, што яны немінуча аказвалі ўплыў сваімі творамі адзін на аднаго.

Яны нарадзіліся ў адзін і той жа, 1882, год. Купала ў сям'і селяніна-арандатара, Колас — у сям'і лесніка. Купала, якога навучыла грамаце яго маці, скончыў толькі адзін клас пачатковай школы, потым пайшоў на заробкі і змяніў мноства прафесій...

Колас таксама вучыўся дома, але затым паступіў у настаўніцкую семінарыю, якую скончыў 20-гадовым юнаком, і пачаў настаўнічаць.

Чатырма гадамі пазней ён уступіў у канфлікт з уладамі — за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе быў асуджаны да турэмнага зняволення. Вынікам гэтага з'явілася некалькі яго ранніх вершаў пратэсту і некалькі раздзелаў эпічных паэм. Пазней ён зноў вярнуўся да прафесіі настаўніка, але з 1915 па 1918 год служыў у арміі за межамі Беларусі. Разлука з Радзімай дала яму тэму для многіх настальгічных лірычных вершаў пра сваю краіну і родныя мясціны. Толькі ў 1921 годзе ён вярнуўся на Беларусь, ператвораную рэвалюцыяй у рэспубліку, і прысвяціў сваю энергію працы настаўніка і літаратурнай дзейнасці. У 1928 годзе ён — акадэмік, а з 1940 года — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Гэтыя кароткія біяграфічныя звесткі добра вядомы, і я прыводжу іх галоўным чынам для таго, каб зрабіць параўнанне з Купалам, які толькі ў 1913 годзе атрымаў адукацыю ў Пецярбургу, і нават у 34 гады яшчэ быў студэнтам народнага універсітэта Шаняўскага...

З гэтага кароткага агляду відаць, як ён змагаўся за сваю адукацыю, і таму яго вершы ў нечым маюць тыя ж рысы, што і вершы шатландскага паэта Р. Бёрнса, чыя жыццёвая лінія была нечым падобна на яго жыццё. Колас жа больш спакойны і крыху больш філасафічны, галоўным чынам у сваёй лірыцы — яна не мае таго эмацыянальнага зараду, які ёсць у лірыцы Купалы. Я павінен сказаць, што, хаця творчасць абодвух прасякнута рэвалюцыйным запалам, у Коласе заўсёды адчуваўся настаўнік, рацыяналіст. У Коласа гаварыў розум, у Купалы — чулае сэрца. Таму я лічу, што вершы Коласа крыху больш рацыяналістычныя, яны не такія спантанныя, як вершы яго дарагога друга і таварыша — Купалы. У некаторых яго вершах аб прыродзе адчуваецца, скажам, стрыманасць Нікіціна альбо філасофская пранікнёнасць Цютчава («Усход сонца») ці нават Буніна («Старыя дубы»).

Па грамадзянскасці яго вершы нагадалі мне Някрасава, асабліва верш, прысвечаны сялянскім жанчынам, — «Жніво»:

**Збэрсана жыта, чапляецца колас,**
**Жменю нажне — разагнецца жняя,**
**Жыта паложыць на скручаны пояс...**
**Цяжкая, жнейка, работа твая!**
**Ціха на полі у поўдзень гарачы!**
**Хоць бы дзе кусціка рэдзенькі цень.**
**Толькі ў калысцы плач чуеш дзіцячы,**
**Толькі над вухам звініць авадзень...**

Гэта той жа нізкі паклон працы жанчын, тая ж павага да іх чалавечай годнасці, як і ў шырока вядомых вершах Някрасава, прысвечаных рускай жанчыне. Можна было б прадоўжыць параўнанні. Яны толькі падкрэслілі б галоўнае — яго выдатныя рысы народнага паэта. Гэта і пяшчотнасць Ясеніна, і палымянасць Маякоўскага, і філасафічнасць Блока, і гарачы патрыятызм Твардоўскага. У яго творчасці спалучыліся ўсе лепшыя аспекты і грані, якімі вызначаецца савецкая паэзія.

У час барацьбы з жорсткім ворагам — фашызмам, супраць якога на Беларусі змагаліся з выключнай самаахвярнасцю, Колас, як і Купала, заклікаў свой народ да перамогі, да канчатковага трыумфу:

**Зямля мая, мая краіна!**
**Я чую твой прызыўны звон,**
**Прымі ж хоць слова твайго сына —**
**Не доўгі будзе твой палон.**
**Шумяць гняўліва твае пушчы,**
**Трасуцца помстаю бары,**
**І дзень твой хмурны змрок расплюшчыць —**
**Ёсць у цябе багатыры!**

Купалу не суджана было дачакацца перамогі, а Колас дажыў да шчасця ўбачыць свой край свабодным. Ён узбагаціў савецкую паэзію творамі, у якіх увасоблены яго вялікі жыццёвы вопыт, бацькоўская любоў да свайго народа, сапраўдны педагагічны талент. Ён указваў людзям лепшы шлях у жыцці — дарогу да камунізму.


1926 г.


1934 г.


1939 г.


1945 г.


1949 г.

**«Эх, землячкі! Вось так штодня! —**
**Якуб нахмурыў бровы. —**
**Таму дай грошай на каня,**
**Другому — на карову.**
**А што рабіць! Усе ў бядзе,**
**Вайна ўсіх падкасіла...» —**
**Падняўся з лавачкі:**
**— Хадзем, —**
**Якуб старога ў дом вядзе, —**
**Паесці дай, Даніла.**

**— Якубе, гэта твой сынок!**
**— Ага.**
**— Сынок — харошы!**
**— Сядай, зямляк. Бяры, хадок,**
**На лес, на хату грошы.**

**Жывы агеньчык — не пагас.**
**І песня не дапета.**
**Зайшоў Даніла: — Госці ў нас.**
**— Якія!**
**— Шмат паэтаў.**
**— Я сам і клікаў іх якраз**
**Сюды на час вось гэты. —**
**Да маладых сяброў ідзе,**
**Ступіў на новы ганак.**
**— Дзень добры, хлопцы!**
**— Добры дзень! —**
**Былыя партызаны,**
**Былыя воіны к яму**
**Прыйшлі на ўтульны дворык.**
**Жартуе: — Хлопцы, а чаму**
**Антоне не ў гуморы!**
**Баліць рука!.. Яго руку**
**Асіліў мой Даніла...**
**Кажу: — Даніла і быку**
**Абломіць рогі. Сіла!..**
**Прыселі ў цёплым сасняку,**
**На сэрцы люба, міла.**

. . . . . . . . . . . . . . . .

**Стары сказаў:—От насадзіў.**
**Насеяў. Добры дворык...**
**Хадзем, на жыта паглядзім,**
**Нальецца жыта скора.**

**Мне Жэбрак даў сваіх зярнят,**
**Пасеяў іх увосень.**
**Шугаюць, гледзячы на сад,**
**Дзябёлыя калоссі.**

**Як пагляджу з майго акна**
**На гэтую палоску, —**
**У яве ніва мне відна**
**Калгаснай новай вёскі.**

**Хаджу не часта я туды:**
**Слабымі сталі ногі.**
**Гады, браткі мае, гады,**
**Прайшоў свае дарогі.**

**Прыйшоў, браткі, да той мяжы,**
**Якой не пералезці.**
**А хочацца яшчэ пажыць,**
**Жыццю вянок даплесці...**

**На дзядзьку Коласа глядзеў,**
**Крычала маё сэрца:**
**«Вы, дабрадзей і чарадзей,**
**Даўно зайшлі ў бяссмерце!»**

**Стары прысеў зноў на траве.**
**Бядуе: — От, у сіняве**
**Ніводнае хмурынкі.**
**Зямля сухой скарынкай**
**Зрабілася. Зямля ў нудзе.**
**Парэпалася глеба.**
**Шкада зямлю, шкада людзей,**
**Даўно дажджы ім трэба.**
**Яшчэ навука не дайшла,**
**Каб дожджык вызваць з хмары... —**

**Да хлебароба, да сяла,**
**Да нівы плыў на мары.**

**Турботамі людскімі жыў,**
**Трывожыўся нямала...**
**Сказаў: — Я, хлопчыкі, дружыў**
**З нябожчыкам Купалам.**
**Была і спрэчка іншы раз.**
**Не сварка. Толькі — спрэчка...**
**Хай будзе дружба паміж вас**
**Трывалай і сардэчнай...**

**Запаў апошні той наказ**
**У сэрца мне навечна.**

# «НАША СПРАВА — ТВОРЧАСЦЬ...»

*У пачатку 50-х гадоў я быў на камсамольскай рабоце ў адным з ваенных вучылішчаў. Аднойчы на сходзе вырашылі правесці тэматычны вечар паводле пісем знатных людзей нашай краіны. Гэты вечар даручылі падрыхтаваць мне. Я звярнуўся з просьбай да многіх вядомых дзеячоў, у тым ліку і да Якуба Коласа. Яго пісьмо з таго часу захоўваецца ў мяне.*

**Л. САНДЛЕР,**
**метадыст Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна.**

ДОРОГИЕ друзья! Вы, будущие кадровые офицеры нашей славной Советской Армии, живете интересами всего советского народа. На страже этих интересов, на страже благородного созидательного труда советских людей вы призваны стоять стойко и непреклонно.

Вам хорошо известно, что Белорусская Советская Социалистическая Республика прошла огромные испытания военных годов и подверглась неслыханным разрушениям со стороны фашистских захватчиков.

После разгрома наглых интервентов доблестной Советской Армией белорусский народ настойчиво восстанавливает народное хозяйство и свои разрушенные войной города и села.

Столица нашей республики, город Минск, вырастает, как подлинный город будущего, город коммунизма. Красивейшие асфальтовые магистрали с зелеными липами, величественные здания украшают Минск. С каждым днем их становится все больше. В городскую черту включены молодые рабочие города, выросшие вокруг столицы за последнее пятилетие. Это — первенцы нашей индустрии — Автомобильный и Тракторный заводы. Они со своими рабочими поселками являются одной из красивейших частей города. Так в городах социалистического типа стирается грань между центром и окраиной.

Много еще работы впереди. Под руководством Коммунистической партии, при неизменной братской помощи великого русского народа и всех народов нашей дорогой социалистической Родины мы прилагаем все силы для полного расцвета белорусского социалистического государства.

Дорогие товарищи! Советский Союз — несокрушимый оплот мира. Священный долг каждого советского гражданина—крепить дело мира, бороться против происков агрессии. Выполняя свои трудовые воинские обязанности, советские люди неуклонно борются за мир. Число наших сторонников и друзей увеличивается с каждым днем. Пусть беснуются оголтелые поджигатели войны. Наше дело — творчество и созидание, наше дело — мирное строительство. Вот почему мы должны работать как можно больше и как можно лучше.

Пожелаю вам успехов в боевой и политической подготовке.

Горячо приветствую вас, молодые друзья!

Ваш Якуб Колас.








**НА ГЭТЫХ лінагравюрах — Якуб Колас разам з узбекскім пісьменнікам Хамідам Алімджанам і дом у Ташкенце, у якім беларускі пясняр жыў у гады Вялікай Айчыннай вайны, працуючы над паэмаю «Адплата» і многімі іншымі тагачаснымі сваімі творамі, у тым ліку і прысвечанымі Савецкаму Узбекістану.**

**Аўтар гэтых лінагравюр — мастак Рыгор Фралоў, які цяпер жыве і працуе ў Ташкенце. Ён — ураджэнец Гомельшчыны.**

# ЯГО МУЗЫЧНЫ СВЕТ...

**І. НІСНЕВІЧ**

СВЕТ МУЗЫКІ ПАЭТА... Колькі цудоўнага можа расказаць музыка — бліжэйшая сястра паэзіі, калі гартаеш старонкі жыцця, а значыцца і творчасці ўладара натхнёнага слова! Ці не яно — чароўнае царства гукаў было крыніцай паэтычнага натхнення і роздуму аб жыцці волата нашай нацыянальнай літаратуры — Якуба Коласа. Але склалася так, што месца музычнага мастацтва ў жыцці песняра чамусьці аказалася па-за ўвагай даследчыкаў. Дзе-ндзе нават. выказвалася думка, нібы Якуб Колас не надта цікавіўся музыкай і быццам не разумеў яе. Сціпласць паэта, ягоная патрабавальнасць да вызначэння слова «разумею» ў дачыненні да музыкі, — а адсюль і ўласныя крытычныя заўвагі пра сваю музычнасць, — усё гэта давала некаторым «даследчыкам» уяўную падставу лічыць Я. Коласа абыякавым да меладычных скарбаў наогул. У сапраўднасці ж. усё гэта далёка не так, скажам больш: крыўдна збядняе духоўнае аблічча песняра.

Як вядома, своеасаблівай і разгорнутай аўтабіяграфіяй Якуба Коласа з'яўляюцца паэма «Новая зямля» і трылогія «На ростанях». Дадаткам да іх трэба разглядаць кніжку «Колас расказвае пра сябе» Максіма Лужаніна, што пісалася непасрэдна са слоў паэта. Паспрабуем на іх падставе ўвасобіць коласаўскі свет музыкі.

**З найбольш яркіх уражанняў дзяцінства паэт называў матчын голас. У раздзеле «Каля самых вытокаў» кніжкі М. Лужаніна мы чытаем паэтавы ўспаміны: «Я вельмі любіў, як яна спявала. Спявалі ў нас рэдка: прыедуць госці, падгуляюць і тады заводзяць песні... Тут ішлі ў ход найболей жартоўныя, скочныя. Галасы рабіліся прарэзлівымі, як бы штучнымі. А мне падабалася іншае». А іншае — гэта лірычныя песні, што спявала маці, калі садзілася за прасніцу або за шытво. Далей Я. Колас расказвае М. Лужаніну: «А вось спяваць я зусім не ўмеў. І больш за ўсё баяўся экзаменаў па спевах» (пры паступленні ў Нясвіжскую семінарыю. —І. Н.).**

**Тое ж мы чытаем у першай частцы трылогіі «На ростанях». Лабановіч пры сустрэчы з пісаравай сям'ёй расказвае, што ў семінарыі за практычную лекцыю па спевах атрымаў «ледзьве тры з мінусам. І сам не спяваю, і не люблю, калі хто (рамансы) спявае. Іншая справа паслухаць добры хор».**

А слухаць ён умеў выдатна, асабліва музыку навакольнай прыроды, паэтычнага вобраза. У «Новай зямлі» паэт піша, як спяваюць птахі: жаваранкі, салаўі, і танцуюць пад музыку дрэў, каласоў буслікі. У роспачы, што трэба пакінуць Альбуць, каб паехаць у Парэчча, спявае Міхась; песню жальбы пра «малых людцаў» пяе вецер; гучыць тут хор пчол, цапоў на полі. А калі канчаецца зіма, «і гоман, спеў, і шум усюды, як быццам у цымбалікі і ў дуды зайгралі тысячы музыкаў».

А зараз пра адчуванне паэтам музыкі слова, пра вызначэнне яе месца ў жыцці і пра ўплыў на нараджэнне вобраза.

У сценах семінарыі Я. Колас упершыню пазнаёміўся з творчасцю вялікага рамантыка Аляксандра Грына. Уражанне незабыўнае. Праз шмат гадоў паэт гаворыць М. Лужаніну: «Як прачытаў у яго першы сказ — адразу музыка. Нейкі інструмент мяккі, грудны, з кропелькай патайнай трывогі. Як альтовая скрыпка. Гучыць лагодна, а потым устурбуецца». Музыка зачароўвае і героя Коласа — Лабановіча ў «Палескай глушы». У гутарцы з падлоўчым Баранкевічам і яго дачкой Габрыняй малады настаўнік падкрэслівае, што музыку «вельмі любіць». Калі зайграла музычная скрыначка і«мяккія, ласкавыя гукі стройным сугалоссем паліліся па пакоі», Лабановіч адчуў, як перад чарамі хараства зніклі «ўсе дробязі жыцця, увесь будзённы клопат, муць душы». Ён гаворыць, што хараство «падымае чалавека над балотам людское сумятні».

Што музыка заўсёды вельмі ўражвала, хвалявала паэта, мы чытаем у розных раздзелах вышэй названых аўтабіяграфічных твораў песняра. Пры сустрэчы з лірнікамі «іх песня мяне на слязу пашыбала», расказвае ён у раздзеле «Падарожжы» з кніжкі М. Лужаніна. У раздзеле «На ростанях» з таго ж твора ёсць цікавая і шматзначная паралель паміж ежай і спевам у жыцці чалавека, якую праводзіць Якуб Колас. Ён падкрэслівае: «Калі кажуць еў або спяваў, пакуль задаволіўся, значыць, разумеюць — пакуль не наталіў голад ці не нацешыўся песняй». І музыка для паэта— гэта «натхненне, сэрца жар, агонь душы, златаіскрае імкненне , песня зорнае вышы». Аб ёй, аб музыцы ён піша ў сваіх творах бадай усіх жанраў, даводзіць настойліва і пераканальна, што «для ўжытку неабходна, апрача прыроджанай, мець яшчэ і мову музыкі» («Лірычныя адступленні»).

Якая ж музыка была вядома Якубу Коласу? Мяркуючы па названых кніжках, па перапісцы паэта з сябрамі і біёграфамі С. Вянгеравым, Я. Карскім, Л. Клейнбартам, у дакастрычніцкі час Я. Колас добра арыентаваўся ў свеце музычных інтарэсаў настаўніцкага асяроддзя. Акрамя беларускіх народных песень, якія, калі дома не было мужчын, так цёпла і натхнёна спявала яму маці, будучы паэт добра ведаў таксама нацыянальныя танцы, рускія і ўкраінскія песні, папулярныя старажытныя рамансы. Бацька спяваў яму песню «Не будзі мяне рана», матыў якой нагадвае вядомы «Ці свет, ці світае»; дзядзька Антось — чалавек бязбожны, з пантэістычнымі поглядамі, любіў выконваць уласна апрацаваныя псалмы. Гучалі ў хаце Міцкевічаў «Вярба», «Калініца», «Быў сабе з тапорыкам пан Ян», «Я—адзін, я—казак», «Ой, ляцеў авадзень», «Зайграйце, музыкі», «Ой, пара вячэраць». Танцавалі тут «Лявоніху», полькі, кадрылі пад акампанемент дудкі, дуды, басэтлі, скрыпкі, бубна... Дарэчы, у семінарыі Якуб Колас і сам вывучаў ігру на скрыпцы і нотную грамату, але ягоны Лабановіч «іграў зусім слаба: скрыпка — раўла», і наладзіць царкоўны хор, як прасіў настаўніка псаломшчык Бацяноўскі, ён не змог. (А можа і не хацеў!). У семінарскія гады рабіў Якуб Колас і фальклорныя запісы, якія ўхваліў вельмі дасведчаны і адукаваны нясвіжскі педагог Фядот Кудрынскі.

Колас-настаўнік — у параўнанні з мінулымі гадамі дзяцінства і навучання — значна пашырыў свой музычны кругагляд. Асяроддзе школьных выкладчыкаў добра ведала раманс Чайкоўскага «Ці я ў полі не калінаю была» («Я ли в поле да не травушкой была»), што ў трылогіі «На ростанях» спявае Лабановічу прыгажуня Ядвіся; ведалі «Тытулярнага саветніка» Даргамыжскага, рэвалюцыйныя «Варшавянку» і «Смела, таварышы, у нагу», салдацкія «Гром перамогі, раздавайся» і «Дружна, рабяты, у паход збірайцеся», старажытны раманс «Забыты даўнія мінуты» («Забыты нежныя лобзанья»), шансанетку «На двары ўзнікла бойка» і г. д. Калі збіраюцца разам настаўнікі, яны спяваюць таксама ўкраінскія песні «Узяў бы я бандуру», «Раве ды стогне», «Запавет», «Ой, адна я, адна», рускую «Утаптала сцежачку цераз яр»...

Усе гэтыя народныя і кампазітарскія творы не з'яўляюцца для Якуба Коласа толькі ўспамінамі ўласнага музычнага побыту, а і сродкам для раскрыцця ўнутранага духоўнага свету людзей ягонага асяроддзя і герояў творчасці. Для Лабановіча завіруха— гэта бязладная музыка, якая кладзе адбітак на настрой. У папа Уладзімера сын Віктар спявае «Отойди, не гляди, скройся с глаз ты моих» і раманс «сваім надрывам падкрэслівае распад жыцця грамады». У гэтым раздзеле трылогіі мы далей чытаем, што «і песні, і жарты, і танец «зялёнага асла» мелі на мэце высмяяць местачковы мяшчанскі быт». А Лабановіч і Янка Тукала, складаючы песню сучасных «валачобнікаў», імкнуцца паказаць жыццё зволеных настаўнікаў, што прымалі ўдзел у забароненым уладамі сходзе.

**Прагна вывучаючы жыццё свайго заняволенага царызмам народа, Якуб Колас у астрозе знаёміцца і з турэмнымі песнямі жальбы: і тут песня для яго — вымяральнік маральнага здароўя людзей. Праз многа-многа год, ужо ў савецкі час, робячы падарожжа ў Парыж і гаворачы пра свае ўражанні ад яго, Якуб Колас з болем звяртае ўвагу на «дзіўных брадзячых музыкаў, апранутых пад клоунаў». Гэтыя беспрацоўныя, указвае паэт, «адваротны бок медалю пышнага Парыжа».**

**Вельмі многае пра музычныя погляды і захапленні Якуба Коласа ў музычным мастацтве расказваюць яго паэтычныя, празаічныя і драматычныя творы — фармальна не біяграфічнага характару. Так, фармальна, бо кожны твор пісьменніка заўсёды частка яго ўласнага жыцця. І гэта асобная, удзячная і цікавая тэма для даследчыка. Я ж спынюся толькі на некаторых коласаўскіх заўвагах аб музыцы, якімі прасякнуты многія пісьмы, дзённікі, публіцыстычныя выступленні песняра, — яны сведчаць пра багаты музычны свет паэта. У большасці звязаны яны з нашай савецкай эпохай.**

Перад намі коласаўскі артыкул «Шануйце і любіце сваю родную мову». Заклікаючы «чула прыслухоўвацца да голасу свайго народа», аўтар называе спіс вялікіх і дарагіх для яго імёнаў: Пушкіна, Крылова,

# «АБ ГЭТЫМ Я РАСКАЖУ РАБОЧЫМ...»

КРАІНА ЎШАНОЎВАЕ слаўнае імя народнага песняра Беларусі Якуба Коласа... І вось яшчэ адно яскравае сведчанне гэтай глыбокай пашаны і ўсенароднай любові: усяго некалькі дзён назад, дакладней — 28 кастрычніка, у горадзе Навашына Горкаўскай вобласці адбылася ўрачыстая цырымонія, прысвечаная спуску на ваду новага марскога сухагрузнага цеплахода, які ў гонар 90-годдзя з дня нараджэння вялікага беларускага пісьменніка названы яго імем.

На гэтых урачыстасцях па запрашэнню дырэкцыі, партыйнага камітэта і заўкома прафсаюза Навашынскага суднабудаўнічага завода «Ака» прысутнічала група беларускіх пісьменнікаў. Запрашэнне прывёз у сталіцу намеснік дырэктара суднабудаўнічага завода Вячаслаў Васільевіч Ермакоў. Госць быў прыняты першым намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Шамякіным.

Карыстаючыся выпадкам, карэспандэнт штотыднёвіка сустрэўся з Вячаславам Васільевічам і меў з ім гутарку.

— Раскажыце, калі ласка, як будаваўся цеплаход «Якуб Колас»?



**Ермакоў:**

— Слаўны юбілей утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік шматтысячны калектыў нашага завода сустракае новымі выдатнымі паказчыкамі ў працы... Сярод працоўных падарункаў Радзіме — два аднатыпныя марскія цеп-

Авяр'ян
ДЗЕРУЖЫНСКІ

●

**По лясах,**
**Па палях,**
**І па пожнях**
**Дзядзька Колас упэўненым крокам**
**ступаў,**
**Размаўляў ён з травінкай,**
**з былінкаю кожнай,**
**Кожны колас яму**
**песню-мару шаптаў.**
**І сабе ўзяў ён прозвішча—Колас,**
**Каб натхненне жывілася**
**сокам зямлі,**
**Каб лунаў,**
**І мацнеў,**
**І дужэў яго голас,**
**І каб песні**
**да сонца,**
**да шчасця**
**вялі!**

Талстога, Шаўчэнкі, Купалы, Глінкі, Чайкоўскага, чыя вернасць народнаму духу ў літаратуры і музыцы — гэта ўзор для ўсіх пакаленняў. У сваім выступленні на юбілейнай сесіі Акадэміі навук БССР, прысвечанай 30-годдзю нашай рэспублікі, Якуб Колас адзначае ролю опернага тэатра ў жыцці народа, дзейнасць кампазітараў М. Чуркіна, В. Залатарова, Я. Цікоцкага, А. Багатырова, І. Любана, гаворыць пра «нявыкарыстаны прастор у творчым пераасэнсаванні фальклору», пра неабходнасць, каб наша музыка, «маючы сацыялістычны змест, мела і нацыянальную форму». З захапленнем адзначае ён тут і дасканаласць, выключную шчырасць пачуццяў у трактоўцы музыкі хорам пад кіраўніцтвам Р. Шырмы, бадзёрасць, яснасць выканання песень народнымі калектывамі Вялікага Падлесся, Азершчыны, тураўскага калгаса «Новае жыццё».

У сваёй прамове на XXI з'ездзе КП Беларусі пясняр закранае таксама пытанні музыкі. Ён заклікае кампазітараў пісаць больш музычных твораў, крыўдуе, што яшчэ «не дачакаліся мы ад нашых кампазітараў песні, якую спявалі б у радах дэманстрантаў і за сталом у добрай бяседзе». (Якое слушнае запатрабаванне і ў нашыя дні!).

**Не задавальняючыся толькі заклікамі ствараць патрэбную народу музыку, не задавальняючыся толькі тым, што ягоная творчасць з'яўляецца наогул крыніцай натхнення для кампазітараў, Якуб Колас спецыяльна цікавіцца пытаннямі опернага лібрэта, прымае ўдзел у стварэнні Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР, вядзе перапіску з рознымі музыкантамі. І як заўсёды, ён і тут вельмі патрабавальны перш за ўсё да сябе. Так на прапанову ленінградскага кампазітара В. Гайгеравай напісаць для яе опернае лібрэта, Якуб Колас у сваім лісце адказвае: «У гэтай справе ў мяне няма вопыту», і раіць звярнуцца да Сяргея Гарадзецкага — свайго сябра і вядомага рускага паэта, які ў свой час напісаў лібрэта «Івана Сусаніна» для Вялікага тэатра.**

**Вялікая патрабавальнасць Коласа да сябе відаць і з факта, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі паэтамі і кампазітарамі Беларусі пісаліся варыянты будучага Дзяржаўнага гімна Беларускай ССР, Якуб Колас на абмеркаванні свайму ўласнаму тэксту паставіў «два» і на Дзяржаўнай камісіі галасаваў супраць яго. Калі чытаць коласаўскі дзённік «Гаворыць Клязьма», што пісаўся ў 1944 годзе яшчэ ў эвакуацыі, відаць, з якой адказнасцю паэт ставіўся да стварэння музычнага сімвалу беларускай дзяржаўнасці, яе нацыянальнага гімна.**

Так, тэма «Якуб Колас і музыка» шматгранна ахоплівае многія пытанні свету музыкі паэта і патрабуе грунтоўнага даследавання. Але няхай тое нямногае, што расказана ў гэтых нататках, будзе ўспрынята чытачамі, як даніна шчырай павагі да цудоўнага натхніцеля яркіх старонак беларускай музыкі.



Кнігі Якуба Коласа на замежных мовах.

# З ГЭТАЙ КРЫНІЦЫ ЁН ПАЧЫНАЎСЯ

Стэфан
ПАПТОНЕЎ

БАЛГАРЫЯ

Тут нарадзіўся вялікі пісьменнік — Якуб Колас...

Сяло Акінчыцы такое ж, як і дзесяткі сёлаў, паўз якія мы праязджалі, і, напэўна, адно з тысяч, якіх не паспелі праехаць. Драўляныя хаты з разьбой вакол вокнаў. Дзве-тры вуліцы, школа, сельсавет, дом культуры, бярозы, пасеяныя ветрам каля вечнага прытулку памёршых...

**Мой родны кут, як ты мне мілы!**
**Забыць цябе не маю сілы![1]**

Я аб'ехаў амаль усю Беларусь. І паўсюль бачыў гэтыя пачатковыя радкі паэмы Якуба Коласа «Новая зямля». Няма вучня, які б не ведаў гэтых вершаў. Улічыце, што ўсе, хто нарадзіўся на гэтай зямлі, абавязкова праходзяць праз школьнае навучанне... Усё роўна, як кожны з нас, народжаны ў адгор'ях Балкан, ведае радкі Івана Вазава:

**Спытаюць мяне, дзе світанне**
**мяне азарыла ўпершыню...**

Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч чытаў напамяць уступ да паэмы «Новая зямля». Над нашымі галовамі шумела ліпа, пасаджаная пісьменнікам недзе ў пачатку стагоддзя.

І вось перада мною адкрыўся Нёман! Вада ў рацэ блакітная, імклівая, крынічная, яна збіраецца з раўчукоў, што цякуць вунь з тых лясоў, на гарызонце. Высокіх берагоў у Нёмана, як і ў большасці беларускіх рэк, няма. Варта ўзысці на невялічкі ўзгорак непадалёку ад Мікалаеўшчыны — і перад табой, як на далоні, адкрываюцца зялёныя палі з блакітнай стужкай ракі. На лугах — стракатыя каровы, спакойныя, нібыта нерухомыя, калгасныя пастухі павольна ходзяць вакол кароў, хутчэй не ходзяць, а плывуць у паветры. Аблокі нізкія, ненатуральна белыя, вісяць нерухома над галовамі пастухоў, над каровамі, над лясамі. Толькі ў нёманскай вадзе яны не стаяць, таму што плынь ракі нясе іх ніжэй да хутара Альбуць.

Навокал гараць ліловыя свечкі лубіну. Пахне свежасцю і зелянінай, і я адчуваю, як лёгка кружыцца галава.

У раку ныраюць дзеці. Плывуць жвава, у празрыстай блакітнай вадзе яны — нібы вялікія рыбіны. Плывуць паміж белых аблокаў на другі бераг, дзе гараць свечкі лубіну і жаўцеюць кветкі аеру.

Кожны з нас нясе ў сабе якуюнебудзь раку, лубінавае поле альбо вінаграднік. Толькі не заўжды мы ўсведамляем гэта. Патрэбны штуршок, і толькі тады рака забурліць знаёма, і ты адчуеш пах лубіну альбо ліпкі сок на спелай гронцы вінаграду...

Мікалаеўшчына — вялікае сяло, па-сучаснаму спланаванае. Школа носіць імя Якуба Коласа. І школьны музей носіць імя народнага паэта. Дырэктар школы паказаў мне музей і спытаў, ці не мог бы я перадаць прывітанне Ніколу Фурнаджыеву? Мне было вядома, што Фурнаджыеў прыязджаў сюды на святкаванне васьмідзесяцігоддзя Якуба Коласа, ён выступаў тут з прамовай — самы старэйшы госць на ўрачыстасцях.

Я адказаў дырэктару, што Ніколы Фурнаджыева ўжо няма, што мы пахавалі яго мінулай зімой. А дырэктар сказаў, што такі паэт, як Нікола Фурнаджыеў, не можа памерці. Ён пакінуў у школе свой зборнік вершаў, школьнікі чыталі яго творы і ведаюць, што такі паэт не памірае. Хіба Якуб Колас, які памёр пятнаццаць гадоў назад, перастаў існаваць?

Заходзячы ў школу, кожны чытае два першыя радкі з паэмы «Новая зямля». Хіба дзеці, якія купаюцца ў імклівай нёманскай вадзе, паўтараючы гэтыя радкі, усведамляюць тое, што іх аўтара ўжо няма? Як так — няма? Гэтага не можа быць, бо радкі вершаў шапталі дрэвы, нашэптвала плынь ракі, яны плылі разам з аблокамі, іх паўтарала зноў і зноў уся беларуская зямля.

Як казачны сон, успамінаецца дарога да пасады лесніка ў Ластку. Мы ехалі праз лес, за якім калісьці наглядаў бацька пісьменніка. Лес гэты гаварыў у яго паэмах, раманах і апавяданнях. Вось — чортаў камень. Чорт, хай яго бог заб'е, узваліўшы гэты камень на спіну, цягнуў усю ноч і так і недацягнуў — раніцою праспявалі пеўні. Камень застаўся ляжаць тут, пры лясной дарозе. Сяляне расказалі Якубу Коласу тое, што чулі ад сваіх бацькоў, а іх бацькі ад сваіх бацькоў... Так загаварыў камень.

«Газік», на якім мы ехалі, падскокваў на няроўнай лясной дарозе. Хутар Ласток паказаўся нечакана. Навокал — лясы і лясы, маўклівыя і бясконцыя. Толькі не такія дрымучыя, як я чакаў. Гэта былі светлыя, спакойныя лясы, асабліва прыгожыя ў такі сонечны дзень, як сённяшні. Тут яшчэ цішэй і спакайней, чым на берагах Прыпяці альбо Нёмана. Калі вы шукаеце цішыні і спакою — прыязджайце ў Ласток. Тут убачыце, як свеціць сонейка, адчуеце пах дзікіх траў і кветак, малака, якое струменіць у вядро пад пальцамі жанчыны, што доіць казу...

Наўкола на дрэвах скакалі вавёркі... Ходзяць тутляснымі сцежкамі і ласі — ужо некалькі год у тутэйшых лясах ласі з'явіліся зноў. Я кажу «зноў», таму што, калі нямецкія арміі групы «Цэнтр» ішлі на ўсход, ласі таксама ішлі на ўсход. І ласі, і звяры адступалі, а калі Савецкая Армія вызваліла гэтыя мясціны, толькі некаторыя з іх вярнуліся. Большасць засталася ў лясах на ўсходзе. Аднак ласі зноў размножыліся, як і бабры. Толькі бабры не жывуць каля Ластка, і, каб іх убачыць, трэба ехаць на хутар Альбуць.

Бязлітасны «газік» чакаў нас. Мне хацелася застацца тут хаця б да вечара, заначаваць, каб убачыць, як першыя промні сонца асвятляюць вяршаліны дрэў, а ўнізе яшчэ ляжыць густы паўзмрок, каб пачуць абуджэнне птушак, каб легчы на спіну ў мяккую траву і бачыць, як нада мною плывуць белыя аблачынкі... Таму што я быў перакананы ў тым, што Якуб Колас, калі хадзіў у цішы ў такіх вось мясцінах, меў досыць часу падумаць пра пачатак і канец чалавечага існавання, як і пра яго нятленную вечнасць. Інакш не маглі б загаварыць у яго вершах, раманах і апавяданнях людзі і птушкі, дрэвы і камяні і ўся гэта беларуская зямля.

...У Альбуці пісьменнік жыў параўнальна доўга, цэлых дванаццаць год, там ён сустрэў пару сваёй творчай сталасці.

Хутар Альбуць — звычайная хата з бярвёнаў, падобная на безліч беларускіх хат, якія сёння паступова замяняюцца цаглянымі дамамі. Аднак людзі не так лёгка развітваюцца з дрэвам і прывыкаюць да цэглы. Не так лёгка пакінуць тую хату, дзе жылі бацькі, бацькі бацькоў і гэтак далей... Ды і паветра ў такой хаце сухое і здаровае, як у санаторыі. Яны хутка ўспыхваюць і хутка могуць быць пабудаваны. Бессмяротныя хаты! Нават калі яны паступова знікаюць, яны застануцца бессмяротнымі, таму што яны жывуць у «Новай зямлі» і ў другіх творах Якуба Коласа, ды і ва многіх творах іншых беларускіх пісьменнікаў. А слова, як вядома, не спапяліць агнём, не забіць чаргой з аўтамата, не раздушыць гусеніцамі танка.

Непадалёк ад хаты, пад вялікімі дубамі, якія таксама апісаны пісьменнікам, — Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч адразу ж гаворыць, што можна прачытаць адпаведнае месца з паэмы, — стаяць некалькі палатак. Сюды часта прыязджаюць турысты, экскурсіі. Мы бачылі турыстаў на шашы — яны ішлі з рукзакамі і складзенымі палаткамі за плячыма. Нават і замежныя турысты бываюць тут. Учора і пазаўчора прыязджалі немцы. З якой Германіі? Жанчына, што жыве тут, не спытала, пазнала толькі, што гавораць па-нямецку. Не ўсе ж немцы насілі чорныя крыжы на сваіх рукавах. «Ведаеце, у кожнага з нас ёсць добрая душа і дрэнная. Дык чаму ж нарэшце не жыць так, каб дабро заўсёды перамагала?»

Мне здавалася цяпер, што самы цудоўны куток беларускай прыроды — тут, а не на Прыпяці і не ў Ластку. Вада ў крыніцы празрыстая і спакойная, як люстэрка. Я нахіліўся. Вада была на дзіва смачная, мяккая. Такой вады я не піў даўно. Яна пахла аерам, лубінам і кветкамі ліпы.

І калі мы падумалі, што ўжо спаталілі сваю смагу, белыя аблокі Беларусі таксама нахіліліся, каб выпіць вады з крыніцы.

Напіўшыся вады, аблокі паплылі далей па небе. І тады за імі нахіліліся над крыніцай дрэвы і птушкі. І менавіта тады я сказаў: «Вось ён — пачатак. Ад гэтай крыніцы пачынаецца ўсё. Калі вып'еш вады з яе, можаш ісці на край планеты і на нябачны бок Месяца, і нават калі ўсе бомбы і чорныя крыжы зваляцца на цябе, ты ўсё роўна будзеш жыць!»

Засталася крыніца адна, неадольна вабячы сваім глыбокім празрыстым вокам. За намі прыйдуць іншыя, каб напіцца з яе.

[1] Па-балгарску гэтыя радкі, гучаць так:
Места рождени, скъчпи, мили —
Да ви забравя нямам сили.

**лаходы: «Янка Купала» і «Якуб Колас». Яны былі закладзены ў пачатку гэтага года. Рабочыя будавалі іх з незвычайным працоўным энтузіязмам і натхненнем. Цяпер абодва цеплаходы гатовы і спушчаны на ваду намнога раней запланаванага тэрміну — на цэлыя два месяцы. Такі працоўны ўздым і яго вынікі можна растлумачыць адным: вялікай павагай да народных песняроў вашага цудоўнага беларускага краю. У нас добра ведаюць творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа, любяць іх кнігі. І я не памылюся, калі скажу, што кожны наш рабочы зараз адчувае асаблівую радасць з той прычыны, што цеплаход «Якуб Колас» пабудаваны якраз напярэдадні юбілею пісьменніка.**

**— Вячаслаў Васільевіч, вы ў Мінску ўжо некалькі дзён. Як вам спадабалася наша перадсвяточная сталіца?**

**Ермакоў:**

**— Скажу коратка: цудоўны горад! Дарэчы, я ўжо не першы раз у Мінску, і такое адчуванне, што з кожным прыездам сталіца выглядае ўсё прыгажэй. Уражваюць новыя жыллёвыя кварталы, новыя вуліцы, высотныя будынкі... І, канечне, з вялікім хваляваннем ехаў я на плошчу імя Якуба Коласа... Я ўбачыў тут не толькі велічны помнік выдатнаму сыну беларускага народа. Я ўбачыў значна большае ў вачах тых, хто завяршаў апошнія работы па будаўніцтву юбілейнага комплексу, хто, як і я, з цікавасцю і хваляваннем прыйшоў сюды, на плошчу,: любоў да сапраўднага чалавека, вялікага мастака слова, буйнага дзеяча, які так многа зрабіў для свайго народа.**

**Вось аб гэтым я абавязкова раскажу рабочым нашага прадпрыемства.**

# ЯНЫ БЫЛІ

ЦІХА НЯСЕ свае воды Пціч, ля берагоў якой раскінуліся Самахвалавічы. Стагоддзі пранесліся над гэтым мястэчкам, але час амаль не пакінуў тут слядоў старадаўнасці — молада выглядаюць і вуліцы і дамы. «Наша вёска ўжо сустрэлася з горадам», — любяць тут гаварыць. І сапраўды, у Самахвалавічах цесна перапляліся рысы горада і вёскі. Побач з драўлянымі, моцна зрубленымі дамамі стаяць пяціпавярховыя цагляныя будынкі. Тут размясціўся навукова-даследчы інстытут пладаводства, агародніцтва і бульбы, вядомы далёка за межамі рэспублікі. Паблізу — школа-дзесяцігодка, універмаг, выканком сельсавета...

Пабыўшы ў Самахвалавічах упершыню, вы адразу звернеце ўвагу на невялікі абеліск, устаноўлены на пагорку ў цэнтры пасёлка. Золатам высечаны на ім словы: «Любімым і дарагім таварышам Васілю Лапаціку (22 гады) і Івану Жэрдаву (22 гады), загінуўшым за мір і свабоду народаў 11 снежня 1917 года». А крыху ніжэй хвалюючая эпітафія: «Нас перамаглі часова, і мы памерлі, але не памерла праўда, перамога за намі! Верце ў свабоду і стойце вышэй смерці, бо жыць пад бізуном ганебна чалавецтву».

Побач з абеліскам узвышаецца яшчэ адзін помнік — воінам Савецкай Арміі, якія загінулі ў баях за вызваленне Самахвалавіч ад гітлераўскіх захопнікаў у 1944 годзе. Гэтыя дзве даты — 1917 і 1944 — сімвал агнявых рубяжоў нашага народа, яго слаўнай гісторыі, гераічнага паўвекавога шляху.

Тут адбываюцца ўсе святочныя ўрачыстасці, сюды прыходзяць жыхары Самахвалавіч, навакольных вёсак, каб ушанаваць памяць загінуўшых герояў, аддаць даніну любві і павагі тым, хто змагаўся і аддаў сваё жыццё за нашу справядлівую справу, за гонар і незалежнасць нашай Радзімы.

А ў далёкім арэнбургскім стэпе, каля горада Бузулука, стаіць другі помнік з чырвонай зоркай — смеламу чырвонаму разведчыку Сямёну Лапаціку, які загінуў за справу рэвалюцыі ў 1918 годзе ў барацьбе з белачэхамі.

Дык хто ж яны такія, браты Лапацікі? Гэта пытанне цікавіць многіх. Вось адно пісьмо, прысланае ў рэдакцыю.

«Дзень добры, дарагія беларускія сябры! Каля тыдня знаходзіліся мы ў вашым прыгажуне-Мінску, але сардэчныя сустрэчы з выдатнымі людзьмі на вашай беларускай зямлі запомніліся нам назаўсёды. Павезлі мы з сабой у



Гэтай фатаграфіі мала не шэсцьдзесят гадоў. У адзін з веснавых дзён 1915 года вырашылі сфатаграфавацца на памяць тры браты Лапацікі. Вось яны — Васіль, Аляксандр, Сямён.

далёкі наш Магадан самыя лепшыя, самыя цёплыя пачуцці аб вашым народзе, які і ў гады вайны з фашысцкімі акупантамі, і ў мірныя дні праяўляў і праяўляе сапраўдны гераізм. У вас у Мінску яшчэ, напэўна, залатая восень, яшчэ дрэвы не скінулі сваё ўбранне, яшчэ па-харошаму свеціць сонца. А ў нас на Поўначы ўжо холадна, зямля раніцамі скавана марозікам. Але ад успамінаў пра вас, дарагія нашы браты-беларусы, робіцца цёпла на сэрцы. Хочацца нам падзяліцца з вамі яшчэ адной радасцю. Да вас у Беларусь мы былі камандзіраваны ў навукова-даследчы інстытут пладаводства, гародніцтва і бульбы. Ваш бясцэнны дар — насенне бульбы — у нас у Магадане выдатна прыжылося. Вялікае дзякуй за беларускую бульбу.

Засталося для нас незразумелае адно пытанне — а ведаць хочацца. Інстытут ваш, як вядома, знаходзіцца ў Самахвалавічах. Недалёка ад яго мы бачылі помнік-абеліск, пастаўлены яшчэ ў 1917 годзе двум маладым камуністам — Васілю Лапаціку і Івану Жэрдаву. Калі не цяжка для вас, напішыце пра іх. Хто яны? Як загінулі? Можа, у жывых засталіся іх сваякі, дзеці — усё гэта вельмі цікава. Напішыце, калі ласка.

Жыхары горада Магадана Саляхоў і Прыбыткова».

Адказаць адразу аўтарам аказалася даволі складана. Не таму, што памяць аб загінуўшых камісарах маладой рэспублікі Саветаў забыта. Іх тут памятаюць і шануюць. Жывыя некаторыя сведкі далёкіх, незабыўных дзён грознага 1917 года, жывыя і сваякі Лапаціка. Але хацелася даведацца ўсё да канца пра слаўнае, але кароткае жыццё двух сяброў — Васіля Лапаціка і Івана Жэрдава. З расказаў аднавяскоўцаў, братоў Васіля Лапаціка, таварышаў па барацьбе, юных следапытаў Самахвалавіцкай школы, архіўных дакументаў паўстаюць вобразы гэтых слаўных хлопцаў — першых камсамольцаў вёскі.

У Мінску ўдалося адшукаць малодшага брата Васіля Лапаціка — Уладзіміра Несцеравіча. Ён многа гадоў служыў у Савецкай Арміі, узнагароджаны ордэнам Леніна, Чырвонага Сцягу, Чырвонай Зоркі, баявымі медалямі. Зараз ён — маёр у адстаўцы. Вось што ён расказаў:

— Сям'я ў нас была даволі вялікая — шэсць братоў і сястра. Бацька батрачыў у памешчыка. Жылі вельмі бедна. І хоць бацька з маці былі непісьменныя, яны ўсё ж стараліся даць дзецям хоць якую-небудзь адукацыю. Старэйшыя мае браты закончылі царкоўна-прыходскую школу.

Уладзімір Несцеравіч дастае з альбома фатаграфію, паказвае:

— Злева — Вася, справа — Сямён, у сярэдзіне — Аляксандр. Ён, старэйшы, служыў у царскай арміі, а Вася і Сёма працавалі ў Харкаве на чыгунцы. Было гэта ў 1915 годзе, праз год іх забралі на вайну.

У 1917 годзе вярнуўся з фронту ў вёску паранены ў нагу Васіль. Разам з ім прыехаў і яго франтавы сябра — Іван Жэрдаў. Сам ён быў з Паволжа, але бацькі яго памерлі з голаду, і Іван вырашыў застацца жыць у нашай вёсцы. Яны і прынеслі сюды вестку аб звяржэнні царызму.

З першых жа дзён Савецкай улады Іван і Васіль пачалі арганізоўваць у нас «камунію», як тады гаварылі. З іх дапамогай падзялілі памешчыцкую зямлю, а маёнтак перадалі салдацкім сіротам. Абодва яны былі камсамольцамі, гарачымі хлопцамі. Хадзілі ў шынялях, пры зброі, наводзілі парадак у вёсцы. Памешчыкі збеглі, а кулакі ўзненавідзелі іх лютай нянавісцю. Іван стаў ваенным камісарам валаснога камітэта, Васіль кіраваў харчовым аддзелам. У той час, бывала, на дзень па пяць разоў наладжваліся мітынгі. Васіль і Іван выступалі на іх, тлумачылі сялянам першыя дэкрэты Савецкай улады. Да іх слоў прыслухоўваліся барадатыя сяляне і зусім бязвусыя юнакі. На такіх сходах асабліва даставалася мясцовым багацеям. Колькі разоў падкідвалі Васілю і Івану запіскі: «Хлопцы, цішэй!». А яны не хацелі «цішэй». Ведаеце, франтавікі, 22 гады, гарачыя галовы, не думалі яны тады пра смерць. А яна да іх падкралася цішком, цёмнай ноччу...

Пра гібель камісараў расказаў у сваім пісьме стары камуніст, член валаснога рэўкома, цяпер пенсіянер Іван Антонавіч Дабрамыслаў, які жыве ў Новасібірску.

«Я і мае таварышы Васіль Лапацік і Іван Жэрдаў былі камандзіраваныя ў Самахвалавіцкую воласць камісарамі па былых памешчыцкіх маёнтках для арганізацыі батрацкіх камітэтаў і Саветаў у вёсках, — піша Дабрамыслаў. — Час быў трывожны. Лясы кішэлі бандытамі.

8 снежня, як зараз памятаю, упаўнаважаных камісараў выклікалі ў Мінск на нараду. Я не змог паехаць, быў хворы. Жэрдаў і Лапацік паехалі. У ноч з 10 на 11 снежня вярталіся яны дамоў.

НЯХАЙ ЖЫВЕ КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ САВЕЦКАГА САЮЗА — БАЯВЫ АВАНГАРД РАБОЧАГА КЛАСА І ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ, ПРАВАДЫР І АРГАНІЗАТАР САВЕЦКАГА НАРОДА Ў БАРАЦЬБЕ ЗА КАМУНІЗМ!

З Заклікаў ЦК КПСС.

*СЛОВА ПРА МАЛОДШАГА СЯБРА*

# НА СЦЭНУ, ЯК У БОЙ...

ГЭТА было пяць гадоў назад на грамадскім праглядзе спектакля «Звычайная гісторыя» паводле рамана І. Ганчарова ў Рускім тэатры БССР імя М. Горкага. Звычайныя (дазволю сабе каламбур) на такіх прадстаўленнях гледачы-тэатралы здзіўлена паціснулі плячыма, калі ў зале раздаліся дружныя апладысменты пасля першых рэплік Осіпа, слугі Аляксандра Адуева. Так студэнты Тэатральна-мастацкага інстытута падбадзёрвалі і супакойвалі свайго Вячаслава Галузу, які ўпершыню выступаў на прафесійнай сцэне. Дэбют студэнта аказаўся ўдалым, і адразу пасля выпускных экзаменаў юнак быў прыняты ў нашу артыстычную трупу.

Просты і таварыскі, на дзіва сур'ёзны ў рабоце, Слава хутка і трывала ўвайшоў у рэпертуар, за кароткі час сыграўшы значную колькасць вялікіх і малых роляў.

Добра памятаю, з якім задавальненнем старэйшыя таварышы адзначалі ўдалае выкананне Славам ролі Альберта ў спектаклі «З вечара да поўдня» В. Розава (рэжысёр А. Смалякоў). Праўдзівы і сумленны, выхаваны бацькам у духу высокай патрабавальнасці да сябе, прынцыповасці, школьнік Альберт трапляе ў такія складаныя жыццёвыя акалічнасці, у якіх нават дарослы чалавек не заўсёды знаходзіць правільнае рашэнне. У гэтай ролі праявіліся асноўныя якасці маладога артыста — душэўная чысціня, уменне думаць і слухаць.

**Вельмі каштоўная акцёрская якасць — уменне, умоўна кажучы, наладжваць «размову» сэрцаў з партнёрам на сцэне. І часта наш малады калега якраз так і будуе дыялогі: ён і ў вочы твае глядзіць, і слухае твае інтанацыі, адчуваючы іх падтэкставае багацце, і «пасылае» субяседніку душэўныя імпульсы героя. Так Слава Галуза іграе ролі, над якімі працаваў разам з рэжысурай; так ён паводзіць сябе на сцэне і тады, калі тэрмінова замяняе выканаўцу ў раней падрыхтаваных спектаклях. А «ўваходзіць» у завершаныя пастаноўкі яму даводзілася часта — у драму «Руіны страляюць...» І. Новікава і М. Сулімава, у трагедыю «Марыя Сцюарт» Ф. Шылера, у лірычную п'есу «Казкі старога Арбата» А. Арбузава... Нас радуе, што і ў такіх выпадках ён працуе па высокіх крытэрыях, што і такія ролі для яго робяцца «роднымі», «сваімі», як і ролі, скажам, у «Дзецях Ванюшына» С. Найдзёнава або ў «З вечара да поўдня» В. Розава.**

Але бадай, самы высокі бал ён атрымаў бы за выкананне невялікай па тэксце ролі Бакланава ў спектаклі «Разгром» паводле рамана А. Фадзеева (рэжысёр Ф. Шэйн).

Я не аднойчы бачыў спектакль з глядзельнай залы, потым стаў выканаўцам ролі камандзіра Дубава і цяпер бачу спектакль «знутры». Мне здаецца, асноўная вартасць Славы Галузы ў гэтай ролі — ярка выражаная грамадзянскасць, усхваляванасць, якая ідзе ад разумення артыстам рамана, усёй той рэвалюцыйй уздыбленай, яркай, непаўторнай, насычанай гераічнымі справамі эпохі.

Для выканання ролі партызана Бакланава артысту, напэўна, спатрэбіўся ўвесь яго жыццёвы вопыт, вопыт сакратара камсамольскай арганізацыі, вопыт былога салдата Савецкай Арміі, вопыт артыста, які актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці тэатра...

Бакланаў — Галуза ў спектаклі «Разгром» горача зацікаўлены, аддадзены справе, таварышам-партызанам, верны народным байцам, свайму камандзіру Левінсону, якога беззапаветна любіць і якога стараецца пераймаць ва ўсім, нават у манеры паводзіць сябе, нават у хадзе. Бакланаў вучыцца ў Левінсона рэвалюцыйнай стойкасці, бальшавіцкай вытрымцы, але яшчэ ён, Бакланаў, адчувае асабістую адказнасць за жыццё камандзіра, за лёс атрада, за лёс той вялікай справы, дзеля якой партызаны недаядаюць, недасыпаюць, гінуць у балоце, гінуць у баях з намнога пераўзыходзячымі сіламі белаказакаў і японцаў. І калі зрашочаны кулямі Бакланаў у самы крытычны для атрада момант памірае на руках камандзіра, ён думае не аб сваім жыцці, ён хвалюецца за лёс тых, хто павінен вырвацца з акружэння: «Вінават, камандзір... даруй... Не ў час я, крышку б пазней... Наглытаўся іхняга свінца... поўны жывот. Прашу цябе... вельмі прашу... Вырывайся ў даліну! Без мяне...»

**У час гэтай сцэны я, па ролі Дубава, ляжу побач, за мінуту да гэтага забіты, уткнуўшыся ў зямлю, і не бачу паміраючага Бакланава — Галузу,**

# САЛДАТАМІ РЭВАЛЮЦЫІ

Ехалі на розных санях. У трох кіламетрах ад Самахвалавіч, у бярозавым гаі, напалі на іх кулакі. Ваня і Васіль адстрэльваліся. Але сілы былі няроўныя. Іх па-зверску забілі.

Хавалі мы іх у Самахвалавічах, ля царкоўнай агарожы, з паўночнага боку. Магіла павінна быць цэлая. Старажылы павінны памятаць аб гэтым».

Так, яны памятаюць. Вось што расказвае Ігнат Лаўрэнцьевіч Кочур:

— З усіх куткоў воласці прыйшлі людзі на пахаванне. Многа было дзяцей — гэта былі салдацкія сіроты, якім камісары аддалі памешчыцкі маёнтак, першы хлеб, свой, камісарскі, паёк. Людзі здалёку ішлі сюды пешкі, каб аддаць апошняе ўшанаванне народным хадатаям. Я добра памятаю той халодны снежаньскі дзень. Праз некаторы час народ сабраў грошы і паставіў абеліск, а надпіс склаў балтыйскі матрос Сцяпан Гладкі, выбраны замест Івана Жэрдава новым ваенным камісарам валаснога рэўкома.

Але і мёртвыя чырвоныя камісары не давалі спакою ворагам. Нехта ўначы валіў помнік, а ўдзень сяляне зноў устанаўлівалі яго. Здаралася, што сяляне заставаліся на ноч дзяжурыць. Некалькі разоў у валвыканком прыходзіў мясцовы поп і прасіў прыняць са «святога месца» — каля царквы — багахульнікаў і камуністаў. Але народ не дазволіў гэтага зрабіць...

У Самахвалавіцкай сярэдняй школе вядзецца летапіс гераічных спраў землякоў і асабліва важных падзей у жыцці вёскі. Юнакоў запальвае рамантыкай пошуку нязменны кіраўнік гуртка «Юныя следапыты» настаўніца гісторыі Тамара Лявонцьеўна Шпількевіч. Калі размова зайшла ў нас аб наведванні Самахвалавіч М. І. Калініным у 1919 годзе, Тамара Лявонцьеўна паказала мне гістарычны здымак: усесаюзны стараста ў акружэнні сялян.

Пазней, у газеце «Звезда» за 1919 год я прачытаў невялікую нататку, звязаную з гэтай паездкай.

«К цэнтру вёскі Самахвалавічы, — пісалася ў газеце, — пад'ехала маленькая аўтамашына, з якой выйшаў Міхаіл Іванавіч Калінін. Яго акружылі сяляне. Міхаіл Іванавіч ветліва прывітаўся з усімі, падышоў да магілы Жэрдава і Лапаціка, зняў шапку і некалькі мінут пастаяў у жалобным маўчанні. Потым ён доўга і сардэчна гаварыў з сялянамі, сярод якіх быў і бацька загінуўшага камісара Васіля Лапаціка — Несцер Фёдаравіч. Пытаўся аб справах у вёсцы, расказваў пра цяжкае становішча краіны і ў той жа час гаварыў пра будучае народа. Сяляне пыталіся, што рабіць з яшчэ не падзеленай памешчыцкай зямлёй, чаму няма солі, мануфактуры, газы? «Жывем, як раней, пры лучыне, — гаварылі яны. — Чаму цэнтр нічога не прысылае?» «Нічога цэнтр даць вам цяпер не можа, — адказаў Міхаіл Іванавіч, — і я не магу вам нічога абяцаць». «Чаму?» — раздалося некалькі галасоў. «Мануфактуры не прысылаем таму, што яе ў нас няма. Фабрыкі не працуюць. Машыны стаяць з-за адсутнасці вугалю. Царскі генерал Дзянікін захапіў Данецкі басейн, захапіў наш вугаль... Транспарт сапсаваны, чыгункі таксама, хлеб ляжыць у кулака. Летась спатрэбіўся хлеб, а ён быў у белачэхаў. Мы пайшлі супраць белачэхаў і адкінулі іх амаль за Урал...»

Слухаў Несцер Фёдаравіч усесаюзнага старасту і не ведаў, што з гэтымі самымі белачэхамі змагаўся яго другі сын — Сямён. Што ў далёкім арэнбургскім стэпе таварышы па барацьбе пахавалі ўжо свайго вернага камандзіра і смелага разведчыка, устанавілі на магіле дошчачку з зоркай. Гэта потым, праз многа гадоў удзячныя арэнбуржцы паставяць з мармуру помнік свайму беларускаму брату, які ў 24 гады аддаў маладое жыццё за народнае шчасце.

...Было гэта ў першыя дні лютага 1918 года. Маладой савецкай рэспубліцы пагражалі не толькі знешнія ворагі, але і ўнутраная контррэвалюцыя. Узбунтаваліся палонныя белачэхі. Яны захапілі хлебныя запасы і рухаліся чорнай хмарай праз Сібір. На адной са станцый чырвонагвардзейцы прынялі бой. Быў ён цяжкі: у белачэхаў — браняпоезд, у чырвоных — трохлінейкі. Смелае рашэнне прыняў камандзір разведкі Сямён Лапацік. Разам з шасцю разведчыкамі ён непрыкметна падпоўз да чыгуначнага палатна і разняў рэйкі. Браняпоезд спыніўся. Тады полк пайшоў у атаку і ўзяў у палон браняпоезд . Але чырвоныя разведчыкі загінулі. Герояў рэвалюцыі пахавалі з усімі воінскімі ўшанаваннямі ў арэнбургскім стэпе, непадалёк ад Бузулука.

— А як склаўся лёс астатніх братоў? — пытаюся я ў Уладзіміра Несцеравіча.

Павел і Іосіф пасля смерці Васіля сталі аднымі з першых камсамольцаў нашай вёскі. Яны актыўна дапамагалі ствараць калгас і разам з бацькам уступілі ў яго. У гады вайны Павел дапамагаў партызанам, яго называлі «партызанскім кладаўшчыком» — у хаце быў наладжаны тайнік, куды калгаснікі прыносілі хлеб і іншыя прадукты. Потым усё гэта перапраўлялася народным мсціўцам.



Стаіць у цэнтры Самахвалавічаў сціплы помнік Васілю Лапаціку і Івану Жэрдаву.

Іосіфу таксама выпала нямала выпрабаванняў у гады Айчыннай вайны. У 1944 годзе, цяжка паранены, трапіў у палон, быў адпраўлены ў канцлагер. Адтуль уцёк, перайшоў лінію фронту і зноў апынуўся ў радах Савецкай Арміі, ваяваў, зноў некалькі разоў быў паранены, узнагароджаны, з баямі дайшоў да Берліна і распісаўся на сцяне рэйхстага.

Дорага заплаціў за нашу перамогу і Аляксандр. У яго быў адзіны сын Юра, які служыў на ваенным крэйсеры маракам. У 1943 годзе Юра загінуў у марскім баі. Бацька яго, Аляксандр, закончыў вайну ў званні гвардыі маёра, узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, 12 баявымі медалямі.

— Савецкая ўлада, — закончыў свой расказ самы малодшы з братоў Лапацікаў, Уладзімір Несцеравіч, — дала нам, былым батракам, усё. Калі два мае старэйшыя браты Васіль і Сямён — закончылі царкоўна-прыходскую школу, гэта было святам для ўсёй вёскі. Бо тады, апрача папа, ніхто ў Самахвалавічах не ўмеў пісаць. У мяне трое дзяцей. Старэйшая дачка — кандыдат тэхнічных навук, сын — галоўны энергетык на Мінскай цукеркавай фабрыцы «Камунарка», самая малодшая дачка працуе інжынерам на трактарным заводзе...

Расказ Уладзіміра Несцеравіча хочацца дапоўніць адным невялікім прыкладам, у якім, як у люстэрку, адлюстроўваецца наша савецкая ява. Летась адбылася сустрэча былых выпускнікоў Самахвалавіцкай сярэдняй школы. На гэту ўрачыстасць прыехалі людзі з усіх канцоў краіны. Якія толькі званні і прафесіі не ўпаміналіся ў той вечар. Міма юных гаспадароў школы прайшлі і вядучы хірург рэспублікі, і кандыдат тэхнічных навук, і лётчык грамадзянскай авіяцыі, настаўнікі, знатныя хлебаробы і сталявары. Гэта былі нашчадкі першых камунараў — гордасць і слава Самахвалавіч. Кроў, пралітая на алтар рэвалюцыі, не прапала дарма. Справа, за якую аддалі жыццё рускі бальшавік Іван Жэрдаў і беларус Васіль Лапацік, — у надзейных, верных і моцных руках.

**Я. МАЗО.**

---

**я яго толькі чую. І кожны раз як быццам нанова перажываю з ім разам яго смерць, унутрана «працую» з ім на адной хвалі, прыдзірліва ўслухоўваюся ў яго інтанацыі і «пракручваю» ўнутраным бачаннем кінаплёнку яго пакутлівай, трагічна-прыгожай смерці...**

**Слава па-акцёрску не можа сфальшывіць у гэтай ролі, таму што ён правільна пражыў жыццё Бакланава на працягу ўсяго спектакля.**

У Бакланава ў інсцэніроўцы мала слоў: ён больш слухае і маўчыць, іншы раз устаўляючы рэплікі, але менавіта яго маўклівая прысутнасць, яго маўклівыя ацэнкі таго, што адбываецца, дапамагаюць гледачу многае зразумець. У сцэне паміж Левінсонам і Мечыкам, адной з цэнтральных у спектаклі, Бакланаў проста прысутнічае (аўтар не даў яму слова), але ён з'яўляецца актыўным удзельнікам ідэалагічнага канфлікту паміж бальшавіком Левінсонам і блытанікам-максімалістам Мечыкам. Бязмежна адданы справе рабочага класа, не ведаючы ў гэтай адданасці сумненняў, Бакланаў з недаўменнем і нават агідай слухае блытаныя інтэлігенцкія разглагольстваванні гімназіста, які прымкнуў да атрада.

У гэтым выпадку Бакланаў — Галуза не зусім разумее свайго камандзіра, які чамусьці так доўга і нецярпліва выслухоўвае гэтыя шкодныя для яго справы дэмаралізатарскія выказванні. Каб была яго воля, ён, Бакланаў, неадкладна прыняў бы самыя крутыя меры супраць такіх нікчэмных байцоў, як Мечык, якія разбураюць маналітнасць і адзінства рэвалюцыйнага атрада. І калі пасля адыходу Мечыка Левінсон задумёна пытаецца ў самога сябе: «Няўжо і я калісьці быў падобны на яго?», Бакланаў пераканана гаворыць: «Ды што ты!.. Ты, таварыш Левінсон, заўсёды быў на чале... заўсёды наперадзе!» У гэтай перакананасці, у гэтай веры ў камандзіра, у справу рэвалюцыі — увесь Бакланаў, якім яго іграе Слава Галуза!

Як у кожнага акцёра, у Славы здараюцца зрывы. Можна было б папярэдзіць маладога артыста ад паўтарэння няхай удала знойдзеных, але ўжо выкарыстаных у папярэдніх работах «акцёрскіх прыстасаванняў» і фарбаў. Але гэта — выдаткі творчага росту.

**Ёсць у спадчыне Станіслаўскага адна гутарка з артыстамі адносна перспектывы ролі. Мабыць, яе варта часцей перачытваць усім нам. Маладым акцёрам — асабліва. «Калі акцёр выходзіць на сцэну, якая ў яго павінна быць перспектыва? — задаваў пытанне субяседнікам-мхатаўцам Станіслаўскі і адказваў: — Перш-наперш — бой. У гэтым баі ў яго павінен быць свой план, план таго, як дамагчыся перамогі. Ці ж можа пры такім падыходзе надакучыць роля? Тым больш, калі ў вашага партнёра будзе такая ж контрзадача...» Раю майму маладому калегу помніць гэта — персанаж заўсёды выходзіць на сцэну, каб уступіць у бой! Барані божа, каб здольны артыст абмяжоўваўся сумленным і па-рамесніцку прыстойным выкананнем прыватных задач. «Здаралася, — гаварыў тады ж Станіслаўскі, — што выканаўцы ролі Лукі ў «На дне» часта нават не чыталі апошняга акта, не разумеючы, што ад фіналу твора залежыць яго пачатак. Бо апошні акт — вынік яго пропаведзі». Нам трэба па-акцёрску заўсёды «бачыць» і «адчуваць» і тое, чаго мы не вымаўляем на сцэне, «перажываць» і тыя матывы п'есы, якія знешне нас, як выканаўцаў, нібы і «не датычаць». Хай пра гэта памятае Слава Галуза!**

ДОБРА, што малады акцёр расце ад ролі да ролі, што ён знаходзіцца на правільным шляху. Гэта ведае ўся наша трупа. І спадзяецца, што з яго вырасце сапраўдны майстра сцэнічнага партрэта.

**Ю. СІДАРАЎ,**
**заслужаны артыст БССР.**



Артыст В. Галуза у спектаклі «Разгром».

## ІГАР ЛУЧАНОК — ЛАЎРЭАТ ПРЭМІІ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА

**Бюро ЦК ВЛКСМ прысудзіла прэміі Ленінскага камсамола 1972 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і архітэктуры. Сярод узнагароджаных — беларускі кампазітар Ігар Лучанок. Прэміяй адзначаны яго песні пра Радзіму, партыю, камсамол. Пастанова ЦК ВЛКСМ падкрэслівае і грамадскую дзейнасць І. Лучанка як актыўнага прапагандыста савецкай музыкі сярод моладзі.**

## ПЕРАМОЖЦЫ КІНАМАРАФОНУ

Напружаная, вострая спартыўная барацьба, якая разгарнулася паміж гімнасткамі на чэмпіянаце Еўропы ў мінулым годзе ў Мінску, прывабіла кінематаграфістаў розных студый краіны. Яны знялі пра гэты захапляючы паядынак некалькі дакументальных стужак. Адна з іх — «Шэсць з пяці магчымых» была зроблена беларускімі дакументалістамі (рэжысёр і аператар І. Маргачоў, аператары А. Алай, А. Шафран, Г. Разепава, музыка Л. Гедравічуса). Зусім нядаўна яна была прадстаўлена на Усесаюзным фестывалі спартыўных фільмаў, які праходзіў у Адэсе.

Стужка «Шэсць з пяці магчымых» ўдастоена бронзавага медалю па раздзелу рэпартажных фільмаў. Залаты медаль атрымаў «Гэты маленькі мяч» (Куйбышаўская студыя), срэбраны — «Хакей — супраць хакея» (ЦСДФ).

# БАРВОВЫ, ЖОЎТЫ, ЗЯЛЁНЫ

## Рэпартаж з восені

*Магілёў далі адразу. Пачуўся голас Аляксея Пысіна:*

— Пра восень? Прабачце, так, адразу не змагу. Пазваню заўтра.

Дымам ад вогнішчаў, у якіх згарае апалае лісце, адыходзіць лета... Восень.

Спачатку яна падкрадаецца непрыкметна. Яшчэ ярка свеціць сонца і зоры ўначы нізка. Але вось аднойчы ідзеш на работу і выпадкова наступаеш на лісток—ён жоўты і волкі, а на наступны дзень прачынаешся з нудным адчуваннем і, паглядзеўшы ў акно, усё разумееш: неба абкладзена цёмнымі цяжкімі хмарамі, імжыць дробны-дробны дождж. Імчаць паўз вокны гладкія, бліскучыя, падобныя на марскіх ільвоў аўтобусы, зацяклі сцены дамоў, людзі хутаюцца ў плашчы, хоць яшчэ ўчора гулялі з лёгкімі яркімі парасонамі.

Восень. Яе яшчэ будуць цёпла і ласкава называць «бабіна лета», будуць наперадзе яшчэ сонечныя дні і паездкі ў барвовы лес, і сіняе неба, і празрыстае паветра... Але ты ўжо ведаеш, што восень прыйшла.

Восень — дзівосная і дзіўная пара. Убраны збожжавыя і бульба, і ад таго, добры ці дрэнны ўраджай, у многім залежыць наш настрой. Восень — пара чакання: зімой рыхтавалі тэхніку, вясной сеялі, летам змагаліся з пустазеллем, і вось, нарэшце,—вынік. «Пышное природы увяданье» нібы завяршэнне нейкага кола, нібы падагульненне нейкага этапу свайго жыцця. Каму дапамог, да каго быў несправядлівы, чаму пайшоў на кампраміс? Восень задае пытанні і не трэба нічога ўтойваць, хітраваць, тут ты сабе і самы галоўны суддзя і самы галоўны начальнік, які нічога не даруе.

Восень...

*Іграе ваенны духавы аркестр. Чакаюць крок суворайцы. Яны рыхтуюцца да Кастрычніцкага свята. Гукі маршу даносяцца сюды.*

З Мікалаем Сямёнавічам Місюком, членам-карэспандэнтам Акадэміі медыцынскіх навук, доктарам медыцынскіх навук, прафесарам, загадчыкам кафедры нервовых хвароб Мінскага медыцынскага інстытута, мы сустрэліся ў яго кабінеце ў 11 клінічнай бальніцы. Ён кансультаваў хворага.

Восень білася ў вялізнае, на ўсю сцяну, акно, якое глядзела проста ў сквер. Рознакаляровы—жоўты, зялёны, аранжавы, карычневы, ён быццам бы схапіў у абдымкі оперны тэатр і нястрымна выхваляўся прыгажосцю і неардынарнасцю свайго ўбору.

— Я вырас на поўначы, а там поры года асабліва акрэсленыя. У восень улюбёны, таму што з юнацтва запала ў душу нейкая шчымлівая радасць, што ўрэшце можна распачаць работу, бо лета—мітуслівая пара, працаваць цяжка, усе думкі накіраваны на адпачынак. А ўвосень адчуваеш прыліў сіл. Наогул гэты год быў цікавы. Паездкі за рубеж, сустрэчы, знаёмствы з вучонымі многіх краін свету. У выдавецтве «Беларусь» выходзіць мая кніжка «Мадэлі механізму мозга чалавека», у «Вышэйшай школе» падпісана да друку кніга «Асновы матэматычнага прагназіравання захворванняў чалавека». Я працаваў над ёй разам з маім калегам кандыдатам медыцынскіх навук А. Мастыкіным і матэматыкам Л. Грышковым. У кнізе ідзе гаворка пра матэматычны апарат, здольны прадказаць схільнасць чалавечага арганізма да таго ці іншага захворвання. Справа ў тым, што хвароб шмат, і папярэдзіць кожную немагчыма. Калі мы будзем ведаць, што таму ці іншаму чалавеку больш пагражае, можна будзе загадзя прыняць належныя меры. Прагназіраванне, а потым прафілактыка — вось на што накіраваны нашы намаганні.

Прыемнай была для мяне гэтая восень яшчэ і таму, што дачка стала студэнткай медыцынскага інстытута. Сын ужо ўрач, так што ў нашай сям'і будзе трэці медык.

Вось вы спыталіся ў мяне, што будзе далей—яшчэ хутчэй будуць прабягаць стометроўку, яшчэ цяжэй стане штанга? Уявіце сабе—так! Магчымасці чалавека бясконцыя. Ён толькі павінен навучыцца карыстацца бяздоннымі рэсурсамі свайго мозга.

*22.22. З першай платформы адпраўляецца экспрэс «Беларусь». Аператар Уладзімір Цяслюк-малодшы едзе на семінар маладых кінематаграфістаў, які адбудзецца ў Болшаве.*

— Сустрэў неяк сваю настаўніцу, разгаварыліся. Яна сказала: «Вова, я прашу цябе толькі аб адным—здымай сэрцам». Запалі мне ў душу гэтыя словы і, можа, таму, што я іх глыбока асэнсаваў, восень атрымалася ў мяне ўдалая. Усё ішло, усё ладзілася. Зняў у нас на аб'яднанні «Летапіс» фільм «Птушка ікс» з рэжысёрам Дзімам Міхлеевым. Мы пасябравалі. Цяпер працуем над фільмам пра бульбу «Наш другі хлеб». Хочам, каб стужка наша была праблемнай. Разам з бацькам, як яго называюць цяпер, Цеслюком-старэйшым, бо ён таксама Уладзімір, знялі фільм «Край крынічны» пра любімага нашага паэта Аркадзя Куляшова. Гэта была для мяне прынцыповая работа, бо нарэшце бацька пераканаўся, што са мной можна параіцца, і тое-сёе я таксама разумею.

Што датычыць маіх адносін да восені—дык я яе заўсёды ўяўляю, як абзац: кароткі прыпынак, позірк у мінулае і зноў дарога.

*Доўга, прыемна і залівіста смяялася жанчына. Калі чалавек смяецца—гэта добра, можна і пачакаць.*

— Што я магу сказаць,—нарэшце загаварыла Ірына Паншына, мастацтвазнаўца, намеснік дырэктара мастацкага музея БССР.— У мяне столькі работы, што праводжу ў музеі дні і ночы. І нават не прыкмеціла, што лета змянілася восенню. Я дзякую вам за паведамленне. Хай будзе благаслаўленая тая восень, што на двары, і хай заўсёды чалавек, які прыйдзе да нас у музей, знойдзе тут на палотнах і белую задуменную зіму, і радасную, гатовую выбухнуць зелянінай вясну, і какетлівае, поўнае пачуцця асабістай годнасці лета, і ціхую восень...

Нічога асаблівага пра сябе сказаць не магу. Падрыхтавалі выстаўку: «СССР—наша Радзіма». Надыходзяць святы. Днямі — Кастрычніцкія, а там ужо хутка і 50-годдзе СССР.

*Імчаць па вуліцах машыны з зялёнымі агеньчыкамі. Мы іх любім, бо таксі — зручны і хуткі транспарт. Турбот ніякіх. Сеў, даехаў, расплаціўся — бывай!*

Не пачаць размову з намеснікам дырэктара аўтакамбіната таксаматорнага парка Мінска Юрыем Міхайлавічам Дзедуком немагчыма. Званяць, заходзяць, зноў званяць... Гаспадарка вялікая: каля 900 машын, 1600 вадзіцеляў. Кожны перавозіць за змену 120 чалавек. Праблем многа.

— З людзьмі працаваць цікава,—гаворыць Юрый Міхайлавіч. — Трэба быць уважлівым і гнуткім, знайсці да кожнага запаветны ключык. Ну, наша задача такая—зрабіць, каб вам жылося лепей, каб на вуліцах было больш машын, каб не даводзілася нервавацца ні пасажырам, ні вадзіцелям. У любы час сутак, у любую пару года.

Вас цікавіць мая асабістая восень? Звычайная. Я захапляюся гонкамі. Некалькі тыдняў назад удзельнічаў у традыцыйнай аўтамабільна-шасейнай гонцы, якая называецца «Залатая восень». Як яна адбывалася—вы бачылі. Прыйшоў другім, хоць на працягу ўсіх спаборніцтваў быў першым. А потым прагарэла пракладка блока цыліндраў... Давялося ўступіць. Дарэчы, тут у нас працуюць дванаццаць майстроў спорту. І наогул, да спорту ставяцца сур'ёзна. Гэта, відаць, таму, што наш дырэктар Ігар Васільевіч Славырэўскі—сам член спартыўнай федэрацыі, чалавек, улюбёны ў спорт.

Вось я сказаў «захапляюся гонкамі», а на самай справе сам не ведаю, чым больш—спаборніцтвамі ці падрыхтоўкай да іх машыны. Разумееце, як правіла, у гонках удзельнічаюць спартсмены высокага класу, смелыя, валявыя хлопцы. Таму вельмі важна «выціснуць» усё, што можна, з тэхнікі. А для гэтага трэба прыдумаць нешта незвычайнае...

*Клёны, што растуць пад вокнамі ў Іры, пацямнелі, і толькі некалькі лісточкаў трапечуцца пад ветрам.*

— Восень?—ціхенька перапытала Іра Стульская, вымяральніца на заводзе «Транзістар».

— Восень, восень..,—паўтарала яна.

— Вас, канечне, цікавіць праца, ці падабаецца мне быць работніцай, ці адчуваю я агульны рытм завода, ці застануся тут на ўсё жыццё... Так, цяпер шмат гавораць пра гэта. Баюся, што я не вельмі тыповы прадстаўнік. У мінулым годзе скончыла школу, паступіла на завод, прыжылася, палюбіла людзей, шмат што зразумела. Ну, раней мне, напрыклад, здавалася, што свет—гэта мой двор, мая школа, мае сёстры і брат, маці і бацька... За гэты год я нібыта ўзнялася на высокую гару і гарызонт пашырыўся. Я ўбачыла за гарызонтам гарызонт...

*Рабочы, майстар, студэнт-завочнік Інстытута кінематаграфіі, старшы рэдактар кіназдымак Брэсцкага тэлебачання — вось некаторыя факты з біяграфіі Віктара Сухарукава.*

— Восень—гэта заўсёды вынік, а паколькі вынікі ў нас неблагія, дык і настрой добры. Толькі што закончылі работу над дакументальнай стужкай «Кніга бессмяроцця»—пра подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Аўтар сцэнарыя — А. Кавальчук, рэжысёр—П. Бекіш, аператар — Ул. Ермакоў, а я рэдактар. Стужка гэта адрасуецца моладзі. Хочацца, каб наш фільм знайшоў водгук у сэрцах юных, бо подзвігі здзяйсняюцца ў імя будучага. Фільм мы пададзім на ўсесаюзны конкурс «Братэрства сэрцаў маладых», які адбудзецца ў Ленінградзе. Гэтай восенню наша студыя першая, з усіх абласных, стварыла сваю кіназдымачную групу, так што мы—свайго роду эксперыментатары.

*Аляксей Васільевіч Пысін пазваніў на наступны дзень, як і абяцаў.*

— Восень ёсць восень. То яна суцішана-задуменная, са срабрыстым павуціннем бабінага лета і такой цішынёй, што ў вушах звініць. То яна суцэльная непагадзь з нізкімі хмарамі, дажджом, холадам. Восень меней за ўсё цікавіцца нашым настроем і адносінамі да яе. Восень мае свой настрой, а настрой гэты выключна рабочы. Вятры патрэбны ёй, каб паскорыць лістапад, хутчэй скінуць з дрэў ужо непатрэбнае ім лісце. Імжыстымі дажджамі абмывае зямлю, дрэвы, паветра.

Вядома ж, калі ў гэты час самому нічога не рабіць, а толькі назіраць за нібыта аднастайнай працай восені, то стане сумна і нудна. Не, сумаваць няма калі. Трэба толькі дзякаваць восені, што яна сваёй слатой заганяе нас пад абжыты дах і загадвае: «Хопіць мітусні і гойсання! Працуй! Болдзінскай восені не абяцаю, але нейкі набытак будзе».

Нядаўна выйшаў з друку мой зборнік вершаў «Да людзей ідучы». Новая кніжка—нібы прыпынак у дарозе. Гэта і перадышка, і аглядка на пройдзенае, на зробленае. Адчуваю, што не ўсё ўдалося, не ўсё атрымалася так, як хацелася. Вось і трэба ўзважыць, абдумаць, што і як. І нешта думаецца, і нешта робіцца... Працую над перакладамі з украінскай паэзіі, зборнік якой выпусціць наша выдавецтва «Мастацкая літаратура». Рады, што адкрыў для сябе цікавых украінскіх паэтаў Васіля Швеца і Міколу Сома. Яны ўжо сталі маімі добрымі сябрамі, хоць асабіста мы і не знаёмы.

**Дагараюць апошнія лісткі дрэў. Але новымі колерамі заззялі вуліцы і плошчы — чырванню сцягоў і транспарантаў, вясёлкай начной ілюмінацыі. І гэта таксама неад'емныя фарбы нашай восені. Ідзе свята!**

Рэпартаж вяла
**І. ПІСЬМЕННАЯ.**

# КАРОТКАЯ СТУЖКА—ГЛЫБОКАЯ ДУМКА...

Стары, вельмі стары чалавек расказвае пра сваё жыццё, якое ён прысвяціў вырошчванню вінаграду, з якога потым рабілі віно. Празрыстае, розных адценняў, пахаў, на розныя густы...

— У той момант, калі чалавек дакранаецца вуснамі да віна, ён не старэе. Віно трэба не піць, а каштаваць, — задуменна разважае вінаградар...

На экране — стужка, зробленая чэшскімі дакументалістамі «Людзі пад Паловай». У ёй —пра звычаі народа, мудрасць, пра непаўторнасць асобы.

Некалькі дзён гасцямі беларускіх дакументалістаў былі прадстаўнікі Пражскай студыі кароткага фільма: Іржы Свобада — намеснік дырэктара студыі кароткага фільма: галоўны драматург, Уладзімір Голдман — сцэнарыст і рэжысёр, Багуміл Мусіл — рэжысёр.

Яны прывезлі вялікую праграму фільмаў, з якой пазнаёмілі сваіх калег.

Сярод іх «Транзітны газаправод» — пра будаўніцтва газаправода, па якім газ пойдзе з Савецкага Саюза ў Чэхаславакію, пра сяброўскія сувязі нашых народаў. Стужка вынаходліва знята, цікава зманціравана. Прыемна, што ў ёй не толькі інфармацыйныя звесткі, але і «праглядаюцца» характары людзей.

«Цана перамогі» — так называецца карціна пра спорт. Яна хвалюе, таму што праблемы, якія ў ёй уздымаюцца, сугучныя з тымі, што хвалююць мільёны людзей. Сапраўды, што такое спорт сёння? Дзеля чаго займаюцца людзі спортам? У фільме сутыкаюцца дзве супрацьлеглыя думкі. Спорт, лічаць адны, — гэта прафесія, таму ў ім усё магчыма, можна ісці напралом. Прадстаўнікі другой думкі лічаць, што спорт — гэта прыгажосць, грацыя, ён мае грамадскае і выхаваўчае значэнне, спорт — гэта здароўе. Стужка складаная, у ёй выкарыстана хроніка дзесяткаў краін свету, але ў выніку мы цалкам прымаем другую думку, яна нам больш блізкая, больш зразумелая, чалавечная.

Госці з Чэхаславакіі паказалі фільм пра паэта В. Незвала «Прызванне», лірычны задуменны нарыс «Горад у белым», «Кастрычнік». Дарэчы, апошні зроблены са знаёмых кадраў, якія «загучалі» зусім па-іншаму, дзякуючы новай тэхналогіі расфарбоўкі.

Беларускія дакументалісты паказалі стужкі «Памятай!», «Боль мой—Хатынь», «Лес», «Падаючы і ўздымаючыся», «Коннікі», «Птушка ікс».

А потым адбылася размова — доўгая, усхваляваная, сур'ёзная і карысная...

# СА СВЯТАМ! З ВЕРНІСАЖАМ!..

## *Выстаўка «СССР — наша Радзіма» адкрыта*

АПОШНІЯ ДНІ перад адкрыццём выстаўкі... У Дзяржаўным мастацкім музеі — у залах, у запасніках, на балюстрадзе — карціны, графічныя лісты, скульптура, шкло, кераміка!.. Нават не верыцца, што ўсё гэтае багацце змесціцца ў экспазіцыі. З раніцы аж да самага вечара працуюць тут рабочыя, навуковыя супрацоўнікі музея, адміністрацыя. Апошнія дні — гарачыя дні!..

Як павесіць карціны, каб адна «не забівала» другую, каб кожная зала мела свой «твар», каб глядач, які праз некалькі дзён прыйдзе на чарговую сустрэчу з беларускім мастацтвам, адчуў, што кожны вернісаж—свята, каб ён мог спакойна пахадзіць па залах, паразважаць ля палотнаў, скласці ўяўленне аб сучасным беларускім мастацтве, аб шляхах яго пошукаў.

Арганізацыя экспазіцыі — складаная і адказная работа.

Прысела на нізенькую канапку дырэктар музея Алена Васільеўна Аладава... Задуменна глядзіць на карціны, якія стаяць уздоўж сцен. Нешта не тое, не стасуюцца яны адна да адной, няма раўнавагі ў кампазіцыі залы. Вось ужо два дні, быццам калоду карт, «тасуюць» у музеі карціны, графіку, скульптуру—рабочыя з залы ў залу, з паверха на паверх цягаюць вялізныя палотны, цяжкія скульптуры, ставяць, прымяраюць, пакуль не ўсміхнецца Алена Васільеўна, не скажа:

— От так, напэўна, і добра...

Ад святла да цямна заняты ў гэтыя дні супрацоўнікі музея—трэба падрыхтаваць этыкеткі, апісаць, абмераць кожны твор, прыбраць залы, навесці «апошні бляск»... Ды і для мастакоў гэтыя дні—не адпачынак! Нешта яшчэ не задавальняе аўтара, нешта трэба дацягнуць, недзе пакласці завяршальны мазок.

Стаіць на падлозе раскрыты эцюднік, прытулілася на крэсле палітра. Адышоў ад сваёй работы народны мастак Беларусі Яўген Зайцаў. Курыць. Глядзіць. Думае.

Апошнія дні, апошнія гадзіны... Вось прыехалі «тэлевізіёншчыкі», расставілі сафіты, тэлекамеры... Паволі пачынае збірацца публіка — усё цясней робіцца ў фае, усё гучней гоман галасоў:

— Прывітанне, стары!..

— Са святам цябе, з вернісажам!..

Так! Для кожнага, хто прыйшоў на адкрыццё выстаўкі, гэты дзень — свята. Для мастака таму, што вернісаж—быццам рыса пад доўгай напружанай працай, пад месяцамі пошукаў, пакут, знаходак. Для гледача таму, што ён зноў сам-насам можа сустрэцца з прыгажосцю, з творамі любімых мастакоў, за якімі сочыць, поспехам якіх радуецца, у творах якіх знаходзіць адказы на пытанні, што хвалююць і яго.

Загарэліся сафіты. На адкрыццё выстаўкі прыйшлі загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў, міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч. Міністр звяртаецца да прысутных з прывітальным словам, адкрывае выстаўку.

Несумненна, галоўная тэма выстаўкі «СССР— наша Радзіма», якая адкрылася 31 кастрычніка ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР,—усхваляваны мастакоўскі роздум пра нашага сучасніка, стваральніка матэрыяльных і духоўных каштоўнасцей, будаўніка камунізму, пра яго жыццё, слаўныя подзвігі, пра братэрскую дружбу народаў Савецкай краіны.

Гэтаму прысвяцілі свае палотны жывапісцы Л. Асядоўскі («Нафта беларуская ёсць!», «У. У. Маякоўскі»), В. Вярсоцкі («Успамін пра Арменію»), В. Сахненка («Гэта наша зямля»), А. Кішчанка («Памяці подзвігу»), К. Касмачоў («Раніца юнай Расіі»), А. Малішэўскі («Палачанка», «Анколагі»), М. Чэпік («Свята ўраджаю»), У. Стальмашонак («А. Чарвякоў у У. І. Леніна. Студзень 1923 г.»); скульптары А. Заспіцкі («Мантажнікі», «Народныя мсціўцы»), П. Белавусаў («Будаўнік першай пяцігодкі»), Г. Мурамцаў («С. Прытыцкі»), К. Сарока («Партрэт Ліды Івановай, кантралёра камвольнага камбіната»), М. Кандрацьеў («Палеская балада»); графікі Ул. Пашчасцеў («Палескія пейзажы»), І. Капялян («Партовыя краны», «Брыганціна»), А. Паслядовіч («Рабіна», «На іпадроме»).

Вядома, тэматычная карціна на кожнай выстаўцы—жанр, які «стварае надвор'е», але цяжка ўявіць сабе экспазіцыю без цудоўных краявідаў, без пейзажу, у якім і замілаванне перад прыгажосцю роднай прыроды, і роздум аб месцы чалавека ў ёй, аб яго стваральнай працы, дзякуючы якой узняліся на беларускай зямлі волаты вялікай хіміі, вядомыя на ўвесь свет машынабудаўнічыя заводы, электрастанцыі, буравыя вышкі.

Відаць, ніхто з наведвальнікаў выстаўкі не застанецца раўнадушны перад палотнамі В. Цвірко («Збажына сабрана», «На старой зямлі», «Пад вясну», «Вяча»), П. Данеліі («Навальніцы прыходзяць і адыходзяць», «Беларуская мелодыя»), С. Каткова («Лагойскі матыў»), В. Грамыкі («Над возерам»), І. Карасёва («Стагі», «Апошні прамень»), А. Бархаткова («Незамярзаючая рака»).

У дзень адкрыцця выстаўкі вельмі цікава назіраць за наведвальнікамі — першымі гледачамі, першымі суддзямі. Вось прайшлі чародкай маладыя хлопцы: гавораць уголас, горача, спрачаюцца—відаць, студэнты мастацкага вучылішча. Пакуль што яны толькі гледачы. Пройдзе час— іх імёны з'явяцца ў каталогах рэспубліканскіх выставак, яны самі спазнаюць, які нялёгкі хлеб мастака, якая адказнасць ляжыць на чалавеку, што бярэцца расказваць людзям пра сваё светаадчуванне, пра тыя праблемы, якімі ён жыве, пра людзей, якіх любіць, якімі ганарыцца.

Адметныя самі па сабе праходзяць па зале Янка Брыль і Васіль Вітка. На жаль, не так ужо часта даводзіцца бачыць на адкрыцці выставак майстроў з суседніх творчых цэхаў, але Брыль і Вітка, здаецца, у апошні час не прапусцілі ніводнага вернісажу, і сёння спакойна, памяркоўна праходзяць яны па залах, вітаюцца са знаёмымі мастакамі, падоўгу спыняюцца ля палотнаў, гутараць.

Здараецца, на адкрыцці выстаўкі ўбачыш нешта такое, што не грэх і ўсміхнуцца — сабраліся ля карціны людзі, гавораць горача, з захапленнем—адны не згаджаюцца, другія ім пярэчаць. А побач, быццам не мае да карціны ніякага дачынення, бачком—аўтар. Прыслухоўваецца, хвалюецца.

Пастулова публіка разыходзіцца па залах. Робіцца больш прасторна, можна нават прысесці перад работай, якая цябе закранула, і спакойна разабрацца ў тым, што табе ў ёй падабаецца, а што не.

Відаць, не памылюся, калі скажу, што гэтай выстаўцы нечага не хапае ад таго, што не ўбачылі мы на ёй работ М. Савіцкага і М. Данцыга, мастакоў, якія ў апошні час працуюць вельмі актыўна, напружана і цікава, работы якіх шмат у чым уплываюць на агульны «твар» выставак, адкрываюць для нас, гледачоў, нейкія новыя далягляды. Так склаліся абставіны, што яны не здолелі прыняць удзел у гэтым вернісажы, але, можа, якраз таму сталі больш відавочныя здабыткі іншых майстроў, стала больш ясна бачна, што атрад беларускіх мастакоў сёння працуе вельмі роўна, на дастаткова высокім прафесійным узроўні, што за такімі майстрамі, як, напрыклад, У. Стальмашонак, К. Касмачоў, Я. Красоўскі, Р. Кудрэвіч, А. Гугель, А. Шыбнёў, Я. Ціхановіч, В. Сахненка, А. Паслядовіч, Б. Забораў, Л. Лейтман, В. Грамыка, Г. Паплаўскі, Я. Зайцаў, Н. Воранаў, актыўна ўваходзіць у наша мастацтва моладзь. Уваходзіць са сваёй тэмай, са сваім пунктам гледжання на мастацтва, на надзённыя з'явы рэчаіснасці.

Асабліва добра гэта бачна ў раздзеле графікі, скульптуры і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Ад выстаўкі да выстаўкі «ўваходзяць у сілу» маладыя графікі Ю. Зайцаў, В. Тарасаў, Ул. Пашчасцеў, І. Капялян, М. і Ул. Басалыгі, С. Волкаў, скульптары І. Хоміч, М. Кандрацьеў, Ул. Булыга, І. Міско, Ул. Хмызнікаў, «прыкладнікі» А. Зіменка, Э. Позняк, Ул. Кузняцоў, Ю. Любімаў.

Выстаўка «СССР — наша Радзіма» адкрылася. Кожны дзень у выстаўкі — свята. Свята для кожнага наведвальніка — ад сустрэчы з прыгажосцю. Але выстаўка яшчэ і наша агульнае свята, агульная радасць, бо на ёй яскрава бачна, што наша беларускае мастацтва — адзін з перадавых атрадаў творчасці ў краіне — развіваецца і квітнее.

Са святам! З вернісажам!..

**А. БЕЛАВУСАЎ.**



**Я. ЦІХАНОВІЧ.** Партрэт У. І. Галубка, народнага артыста БССР.



**Ул. БУЛЫГА.** Закпік.



**Л. АСЯДОЎСКІ.** Нафта беларуская ёсць...

Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне Пятру Валкадаеву з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

# «КАРОНА — ВОСЬ ГЭТЫ НАЧНЫ ГАРШЧОК...»



**ФРАНЦЫЯ.**
*— Як ён вырас за год!*



**АМЕРЫКА.**
*Карона Расіі.*



**РУМЫНІЯ.**
*Бацька Расіі.*



**ІТАЛІЯ.**
*Помнік царызму.*

ДАСТАТКОВА кінуць вокам на малюнкі, каб прыгадаць... Урэшце, каго прыгадваць? Мікалашку венцаноснага? Тупалобага ўладара «всея Руси», які яшчэ вельмі чапурыўся мянушкамі-тытуламі «цара польскага, князя фінляндскага, прынца эстляндскага і барона курляндскага»? Таго самага Мікалашку другога, што здзекваўся, як трапна пісаў паэт, «і ўдзень і ўночы над Расіяй сялянскай і рабочай»? Таго, каму ў 1917 годзе гэтыя ж рабочыя і сяляне моцненька далі па карку? Ці варта прыгадваць, ці не замнога гонару, нават колішняй «яго велькасці»?!

Лепш крыху нагадаць змест цудоўнага верша Уладзіміра Маякоўскага «Карона і кепка»...

Паэт назірае, як экскурсавод знаёміць дзяцей з экспанатамі музея рэвалюцыі: «царскім адрачэннем», «тронам» і іншымі манаршымі атрыбутамі. Дзецям, якія разглядваюць недарэчныя царскія манаткі, — цікава, дзіўна, смешна. Смешна ад слоў экскурсавода:

*Корона—вот этот ночной*
*горшок,*
*бриллиантов пуд—*
*устанешь носивши.—*
*И морщатся дети:*
*— Нехорошо!*
*Кепка и мягше*
*и много красивше.*
*Очень неудобна такая корона...*
*Тетя,*
*а это что за ворона?*
*— Двуглавый орел*
*под номером пятым.*
*Поломан клюв,*
*острижены когти.*
*Как видите,*
*обе шеи помяты...*

Колькі з'едлівасці і сарказму ўкладзена ў вострыя радкі!

Вось гэтым бязлітасным знішчальным сарказмам, грэблівай пагардай і нянавісцю да крыважэрнага рускага царызму прасякнуты гістарычныя малюнкі замежных мастакоў, зробленыя па свежых слядах рэвалюцыйных падзей у Расіі.

# ЛЯ КІЁСКА

*РАСКАЗ АЎДЗЕЯ САМАСЕЯ*

ОТ ЖА ля кіёска народ таўчэцца сёння... З самага ранку! Ну, вядома, выхадны. Стаў і я ў чаргу — можа чаго-небудзь добрага перападзе...

— Што даюць? — пытаюся ў аднаго.

— А хто яго ведае...

Турбую другога:

— Што прывезлі?

— Смех!

Раззлавацца мне на гэты недарэчны жарт ці што? А-а, не буду! Зраблю выгляд, што зразумеў жартаўніка, ды сам усміхнуся.

— Кажаш, смех даюць? То вось я і вазьму з пуд які... Люблю, грэшны, пасмяяцца!

А тут і сапраўды чую, як двое рагочуць — гартаюць нейкую зялёную кніжачку і аж заходзяцца... Я бліжэй да іх ціснуся.

— Чытай, чытай, — просіць маладзейшы, — як той... зяць злую назолу-цешчу правучыў...

Вясёлае нешта, дай паслухаю!

**— Вывеў цёшчу ён**
**вон з хаты**
**Ды ў борану яе**
**ўпрог!**
**Аж бразджаць у**
**цешчы пяты,**
**Проста пыл курыць**
**з-пад ног,**
**Цягне борану па**
**полі,**
**Толькі стрыбалкі**
**мігцяць.**

— Вось табе б такую цешчу, — смеючыся, кажу хлопцу. — А мо ўжо і ёсць, буркатлівая ды сварлівая?

— Не, у мяне добрая... А гэткія ж цешчы вадзіліся да рэвалюцыі яшчэ, — усміхаецца дзяцюк лагодна. — Вунь пад вершыкам і год стаіць, калі напісана: 1908...

Пажылы дзядзька ў зялёным капелюшы, рагладзіўшы вусы, з сумнаватай усмешкай таксама падмiргвае маладому:

— Да рэвалюцыі не такое, браток, ліха было... Дзе табе ведаць! А во тут здорава расказана:

**Дрэнна маё жыццё,**
**Усё ідзе не ў лад.**
**І крычаць мне**
**ўсюды:**
**«Асадзі назад!»**

**Божа ты мой мілы!**
**Б'юся я, як гад,**
**Толькі ж дзе ні**
**ткнуся —**
**«Асадзі назад!»**

Так усё жыццё і заціскалі паны беднага чалавека, каб іх на тым свеце чэрці смажылі... Во, слухай, калі толькі «ўпярод» сказалі:

**Узбунтаваў я вёску.**
**Ой, быў цяжкі год!**
**Прыязджае прыстаў:**
**— Выхадзі ўпярод!**
**Гэта ты, мярзавец,**
**Узбунтаваў народ?**
**Гэй, гарадавыя,**
**Даць яму ўпярод!**

От такая несправядлівасць была...

Дзядзька гартае кніжачку далей, а ўжо мо з дзесятак дапытлівых пакупнікоў тупаюць побач, чакаюць, што ён яшчэ там вышукае.

— Эге, ды тут якраз нібы пра аднаго майго суседа напісана! — кажа дзядзька. — Як дзве кроплі падобны:

**— Годзе, жонка! Ну,**
**не лайся:**
**Больш гарэлкі ані**
**ў зуб!**
**Калі вып'ю, — ну,**
**хоць кроплю, —**
**Бі мяне, цягай**
**за чуб!**

**Сам, нябож, я добра**
**знаю,**
**Што з гарэлкі свет**
**гарыць...**
**Тфу, паскудства,**
**тфу, брыдота!**
**Хоць зарэж, — не**
**буду піць!**

— І мой жа сусед так кожны раз жонцы кляўся пасля выцвярэзніка, пакуль... у бальніцу не трапіў.

— Дзядзька, дзядзька, а вунь і пра цябе! — рагоча малады, цыбаты, і, зыркаючы праз дзядзькава плячо, чытае з кніжкі сам:

**Ідуць за падзеяй**
**падзеі,**
**За годам праходзяць**
**гады.**
**Зірнеш на сябе,**
**дабрадзеі, —**
**Эх, дзе ж ён, твой**
**час малады?!**
**Глядзіш —**
**насядаюць**
**маршчыны,**
**У вусах блішчыць**
**сівізна...**

— Э, не, сынок. Ты не тое мне чытаеш, — пярэчыць дзядзька, хітравата прыжмурыўшы вочы. — Вось што чытай, вось:

**Ды чорт яе, з той**
**сівізною:**
**Хай лысіна свеціць,**
**як блін,**
**Ты ж клыгай**
**старэцкай ступою,**
**А думай — мне**
**дваццаць адзін!**

Стары смяецца, выпяўшы па-маладому грудзі і заліхвацкі падкруціўшы сівыя вусы. І ўсе навокал смяюцца... І ўжо ўрасхоп купляюць тыя зялёныя кніжачкі з вожыкам на вокладцы. Чаго добрага, так і мне не хопіць.

— Гэй, людцы! — крычу я. — Мая чарга... Дайце мне вясёлую кніжачку!

Пашанцавала-такі — апошнюю ўзяў. Чытаю на вокладцы: «Якуб Колас»... «Асадзі назад. Гумарыстычныя вершы». Ого, ды тут столькі смешных вершыкаў! Ну, дзякуй богу, недарэмна ў чарзе стаяў. На свята з коласаўскім смехам буду...

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# АДДЗЯЧЫЛІ...

Гэтая невялічкая гісторыя адбылася ў 1927 годзе... Я тады вучыўся ў Мінскім беларускім педагагічным тэхнікуме. Быў вечар, прысвечаны творчасці Якуба Коласа. Прысутнічаў і сам пісьменнік. Закаханымі вачыма пазіралі на яго студэнты, асабліва мы — маладыя літаратары... І было чаго: ён быў не толькі нашым настаўнікам, ён клапаціўся пра нас, як бацька... Гэта ж яго стараннем мы, члены літаратурнай арганізацыі «Маладняк», атрымлівалі ў тэхнікуме персанальныя стыпендыі. І вось пасля заканчэння сходу — толькі Канстанцін Міхайлавіч выйшаў з-за стала, мы тут жа гуртам кінуліся да яго, схапілі і сталі ўдзячна падкідваць угору, гушкаць. Хлопцы былі ўсе маладыя, дужыя — Паўлюк Трус, Сяргей Дарожны, Пятро Глебка, Максім Лужанін... І так, відаць, загушкалі свайго настаўніка, што калі апусцілі на падлогу, ён ледзьве трымаўся на нагах.

— Ну, навошта ж так? — незадаволена і як бы пакрыўджана, з дакорам сказаў Якуб Колас.

Сказаў і моўчкі пасунуўся да дзвярэй. Збянтэжаныя, хлопцы вінавата пазіралі ўслед: ну, вось, аддзячылі дзядзьку Коласа... Эх, прыкра! І раптам... Канстанцін Міхайлавіч азірнуўся ад дзвярэй, неяк хітравата падмiргнуў нам і зноў усміхнуўся — па-бацькоўску цёпла і дружалюбна...

У нас адразу адлягло ад сэрца, усім нам стала добра і радасна.

Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.





Індэкс 63856 АТ 19537